# ЗЬМЕСТ

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

## *BYELORUSSIAN THOUGHT*

### ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСАПІС

Год выд. 4 1963 № 5

ЯНКА ЗОЛАК

## ДВАЦЦАЦЬ ПЯТЫ ДЗЕНЬ САКАВІКА

У прыгожы ясны дзень вясновы —
Дваццаць пяты дзень сакавіка, —
Тоўсты лёд, бы ржавыя аковы,
Разарвала бурная рака.

Застагналі з енкам горы лёду
У струменях вольнае ракі...
Зазьвінелі радасьцю народу
У блакітных высях жаўрукі.

Беларускі люд, што быў закуты,
Зрабаваны сілай чужака, —
Разарваў свае няволі путы
Ў дваццаць пяты дзень сакавіка.

Засьвяціла сонца й беларусу...
Толькі-б жыць і цешыцца вясной,
Ды навокал носьбіты прымусу
Зноў вілі нам церневы вянок.

Ня судзіў нам лёс... І край гаротны
Ні вясны, ні волі ня ўтрымаў.
Зноў прышлі к нам хваляю зваротнай
Чужакі, няволя і зіма.

Цісьне сівер... Ды рака пад лёдам
Набірае сілаў да вясны.
Не зламана волі і ў народа
Скінуць з плеч прымусу кайданы.

Верым: прыдзе, вернецца вясновы
Дваццаць пяты дзень сакавіка,
Зноў няволі нашае аковы
Разарве народная рака.

***

*ВІТАЕМ З ДНЁМ 25-га САКАВІКА!*

# Прамова

*К. Мерляка, Старшыні Галоўнай Управы Б.А.З.А. на Акадэміі, ладжанай 24 сакавіка 1963 г. ў Ню Ёрку*

Паважаныя Спадарыні і Спадары!

Заўтра, 25 сакавіка, споўніцца 45 гадоў, як Рада Беларускай Народнай Рэспублікі Трэйцяй Устаўной Граматай абвясьціла Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай, назваўшы яе Беларускай Народнай Рэспублікай.

У Акце абвешчаньня незалежнасьці сярод іншага гаворыцца: "Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца вольнай і незалежнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у васобе свайго ўстаноўчага сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных сувязях Беларусі".

Далей гаворыцца аб тэрыторыі Беларусі: "БНР павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбовую перавагу беларускі народ".

І ў канцы: "Абвяшчаючы аб незалежнасьці БНР, Рада яе ўскладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы памогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы".

Гэты Акт абвясьціла Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, выбраная на Першым Усебеларускім Кангрэсе ў сьнежні 1917 году, на якім узялі ўдзел 1872 дэлегаты з усіх куткоў беларускае зямлі.

Такім чынам, беларускі народ выявіў сваю волю самым дэмакратычным спосабам. Трэба падзіўляцца,што нашы палітычныя дзеячы таго часу ў цяжкіх абставінах ваеннае стыхіі ўсё-ж знайшлі дарогу да вырашэньня народнае волі.

Дарма, што зацятыя ворагі беларускае дзяржаўнасьці, асабліва расейскія імпэрыялісты розных колераў, намагаюцца як Кангрэс, гэтак і Акт абвешчаньня незалежнасьці прыпісаць палітычным "сделкам" Нямеччыны, часам Польшчы і хто ведае яшчэ каму, каб толькі абнізіць, выкрывіць ды сфальшаваць веліч Акту 25 Сакавіка перад тымі, што мала ведаюць гісторыю Беларусі і яе слаўнае мінулае, падсоўваючы адначасна розныя спосабы разьвязкі так званай праблемы "захаваньня цэласьці расейскае імпэрыі". На сяньня такімжа, вельмі актуальным трыкам, зьяўляецца і палітыка непрадрашэнства, якая праводзіцца расейцамі на эміграцыі і якую падтрымлівае невялікая колькасьць амэрыканскіх "любіцеляў" расейскага стылю і культуры.

Увесь фальш інтэрпрэтацыі Акту 25 Сакавіка ня вытрымоўвае ніякае крытыкі. Для параўнаньня возьмем хоць-бы абвешчаньні незалежнасьці новапаўсталых дзяржаваў пасьля Другое сусьветнае вайны, дзе кангрэсы адбываліся ня перад абвешчаньнем незалежнасьці, а пасьля яго. Вось-жа, ня можа быць сумніву аб дэмакратычнасьці Акту 25 Сакавіка. Воля беларускага народу была выказана праз ягоных дэлегатаў, і абвешчаньне Беларусі Незалежнай Народнай Рэспублікай адбылося ў сузгоднасьці з міжнародным правам, з усімі вымогамі дэмакратычных правілаў.

Вялікі Акт 25 Сакавіка завяршыў сабою пэрыяд палітычна-вызвольнага змаганьня беларускага народу, які бярэ свой пачатак ужо ў 1863 г. ў форме ўсенароднага паўстаньня, пад правадырствам Кастуся Каліноўскага, супраць акупанта — царскае Расеі.

І тутака будзе на часе прыпомніць, што 22 сакавіка 1864 г., 99 гадоў таму назад, у Вільні на Лукішскім пляцы было спынена маладое жыцьцё Кастуся Каліноўскага. З-пад шыбеніцы Каліноўскі ў сваім тэстамэнце перdesignated казаў народу: "Бо я гавару Табе з-пад шыбеніцы, народзе, што тады толькі будзеш жыць шчасьліва, калі над Табою ўжо маскаля і пана ня будзе".

І як-жаж актуальнымі зьяўляюцца сяньня гэтыя словы!

Хай помняць тыя, што хаваюць гістарычную праўду, што зьмяньшаюць нанесеныя крыўды беларускаму народу, тыя, што апрыўдваюць расейскі імпэрыялізм.

Не! Шчасьлівы Беларускі Народ будзе толькі тады, калі ён раз і на заўсёды пазбавіцца маскаля-расейца, як праўдзіва гэта разумеў Каліноўскі.

Колькі зьдзеку і гора, духова і фізычна, перанёс ад часу абвешчаньня свае незалежнасьці беларускі народ! Мы ня будзем аналізаваць гэттака, пакінем гэта сумленным беларускім гісторыкам ды навукоўцам. Зазначым толькі,

што беларускі народ у ніякім выпадку ня спыніць свайго змаганьня аж да поўнае перамогі. Хай ведаюць гэта тыя, што зачыняюць яму рот сягоньн. Мы ў вольным сьвеце данясем ягоны голас да ўсіх палітычных установаў і людзей добрае волі, каб яны пачулі і зразумелі ягоныя дамаганьні.

Не аналізуючы тагачасныя падзеі, у якіх даканаўся Чын Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, глянем у сяньняшнія палітычныя абставіны і параўнаем некаторыя характэрныя мамэнты. Вось-жа, калі народы Азіі і Афрыкі болей, як на пакаленьне пазьней Сакавіковага Акту, адзін па адным абвяшчаюць сваю незалежнасьць, а вольны сьвет настаўлены на самавызначэньне народаў, дык для беларускага народу справа вызваленьня скамплікавалася. Чамусьці да Беларусі і ёй падобных народаў вольны сьвет знайшоў іншыя формы падыходу. Возьмем і нашых некаторых амэрыканцаў: ёсьць і такія, што ўважаюць Беларусь за гістарычную тэрыторыю Расеі. Ды яшчэ горш: некаторыя беларускія палітыкі ўважаюць, што справа дзяржаўнасьці і незалежнасьці не пнвінна загадзя вырашацца, ці "предрешаться", як кажуць расейцы.

І гэта пасьля 45-ці гадоў ад часу Сакавіковага Акту! Тады трэба толькі ўявіць сабе веліч тых людзей, іх цьвёрдасьць, патрыятызм, іх ахвярнасьць, якія Актам 25 Сакавіка абвесьцілі Беларусь Незалежнай. Яны дакладна ўсьведамлялі сабе, што значыць будаваць дзяржаву. Тварцы Акту 25 Сакавіка былі гатовыя на ўсё: непасільную працу, пакуты і, калі трэба, страту жыцьця. І яны прайшлі ўсё, ня мучаніцтва для мучаніцтва, але дзеля выкананьня місыі свайго народу. Яны апраўдалі гонар тагачаснага беларускага пакаленьня і ідэал, за які варта жыць, працаваць і змагацца, а пры патрэбе аддаць і жыцьцё.

Вярнуўшыся да пэрыяду, які пачаўся пасьля абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, мы сканстатуем рэчы, зь якімі дажылі да сяньня. Гэты, другі пэрыяд, зьяўляецца пэрыядам ажыцьцяўленьня Акту 25 Сакавіка, пэрыядам змаганьня за ўвекавечаньне Незалежнасьці Беларусі.

Калі Беларускі Народ абвесьціў усяму сьвету сваю волю стацца свабодным народам, пачаўся моцны наступ, гэтым разам, з боку чырвонае Расеі ды нашага заходняга суседа. Вонкавае падтрымкі ня было, дарма, што Масква ўвіхаецца падсунуць сюды нечыя "сделки". Не хапала і сілаў, арганізацыйных, у радох яшчэ неакрэпшых беларускіх змагароў, дзякуючы вайне і ўсяму, выцякаючаму адгэтуль. Беларуская Незалежнасьць сталася кароткай. Не памагло і Слуцкае паўстаньне ды іншыя паўстаньні меньшага засягу. Лёс беларускага народу вызначыў Рыскі трактат 18 сакавіка 1921 г. Беларусь падзялілі на дзьве часткі. Трактат гэты быў чужым палітычным "бізнэсам". На нашу некарысьць, на ўсход ад Рыскае мяжы беларусы так пацярпелі, як у гісторыі рэдка хто пацярпеў: амаль да ніткі вымардавалі беларускую інтэлегэнцыю, тысячы і тысячы беларускага насельніцтва закончылі сваё жыцьцё ў далёкіх ссылках.

Спробы будаваньня беларускага жыцьця на захадзе ад гэтае мяжы ня скончыліся так трагічна, не пацягнулі так шмат людзкіх ахвяраў, тым ня меньш, духова наш народ пацярпеў шмат.

Ня гледзячы на ўсё, беларускі народ не прапусьціў ані воднае нагоды, каб ня выкарыстаць для адбудовы свае дзяржаўнасьці, пачынаючы ад Напалеона і канчаючы Другой сусьветнай вайной. Ён змагаецца цяпер і будзе змагацца і дамагацца сваіх правоў, аж покуль іх не здабудзе.

Магчыма, наймацнейшы нацыянальны ўзрост духа і ахвярнасьці, а таксама рашучасьці ў змаганьні і абароне сваіх правоў, выказаў беларускі народ падчас Другое сусьветнае вайны. За кароткі час, бо толькі за тры гады, нацыянальная сьведамасьць Беларускага народу дайшла да найвышэйшага да гэтае пары ўзроўню. Ня гледзячы на цяжкія абставіны нямецкае акупацыі ды жахлівыя вынішчальныя рэпрэсіі расейскіх бандытаў (інакш іх назваць ня можна), беларусы змаглі ў межах тагачасных абставінаў зарганізаваць асьвету, стварыць свае арганізацыі, адміністрацыйныя ворганы, Беларускую Краёвую Абарону, аднавіць Беларускую Аўтакефальную Царкву, цывільнае судоўніцтва ды чыніліся намаганьні ўсё гэта ўняць у пэўныя лягальныя, дзяржаўнага характару, рамкі, што і прывяло да Другога Ўсебеларускага Кангрэсу. Гэты факт зьяўляецца ўжо фактам гістарычным, і ў ніякім выпадку мы не павінны яго абмінаць у гісторыі беларускага вызвольнага змаганьня

У гэты пэрыяд пралілося шмат беларускае

крыві, у выніку чаго на сяньня мы маем меньш выдатных вайскавікоў, меньш дасьведчаных палітыкаў, меньш выдатных настаўнікаў, меньш духовых апякуноў, а перад усім, меньш шчырых беларускіх патрыётаў, бо яны загінулі зь верай, што іхныя ахвяры ня пойдуць на марна.

Мы тут, тыя, што асталіся, мусім запэўніць іх, што будзем працягваць тую барацьбу, што распачаў Каліноўскі, аж да сьмерці.

Пасьля канца Другое сусьветнае вайны Беларусь ізноў апынулася пад расейска-камуністычнай акупацыяй, надалей зносіць жахі расейскае каляніяльнае палітыкі ды біялягічнага вынішчэньня народу. Паводле дадзеных Андрэя Багровіча ў кнізе "Жыхарства Беларускае ССР", у пэрыяд ад 1926 да 1959 году этнаграфічная Беларусь недалічвае 12.759.000 жыхароў. Гэта, роўна, палавіна сучаснага беларускага народу, што знаходзіцца ў Савецкім Саюзе.

Паважаныя Спадарыні і Спадары! Уявеце сабе, на колькі больш Беларусь была-б мацнейшай, на колькі больш Беларусь была-б знанай у сьвеце і колькі больш лічыліся-б зь ёй іншыя народы, каб гэтая колькасьць людзей (12.759.000) была наяўная на сяньня. А чаму гэтага няма? Бо Масква, адвечны вораг Беларусі, аб гэтым паклапацілася. І нам трэба быць гатовым, што яна будзе і надалей клапаціцца. Гэта наяўна паказваюць бачыны газэты "Голас радзімы" ды іншыя цэнтральныя газэты, дзе яны адна за адной выкрываюць і "разаблачаюць" г. зв. "беларускіх буржуазных нацыяналістаў", дамагаючыся над імі савецкага правасудзьдзя за выдуманыя праступкі. На лаве падсудных за гэнасыдную палітыку Савецкае Расеі ў адносінах да беларускага народу павінны сядзець усе крэмлёўскія заправілы на чале з самым Хрушчовым, у таварыстве некаторых беларускіх маскоўскіх калябарантаў.

Адзначаючы 45-я ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, мы, беларусы на эміграцыі, заявім, што ідэал, выяўлены ў Акце 25 Сакавіка, не зьяўляецца і ніколі ня будзе зьяўляцца аб'ектам гандлю, уступак, ці якога-небудзь кампрамісу; што воля беларускага народу не падлягае ніякім інтэрпрэтацыям у сьвятле непрадрашэнства; што мы на эміграцыі будзем старацца дапамагаць, пакладаючы ўсе нашыя сілы, каб наш народ на Бацькаўшчыне змог вызваліцца, як найхутчэй, зь няволі.

Дзеля гэтага, дазвольце, дарагія суродзічы, мне сказаць, што мы ўсе прыракаем, што адкінем усё, што нас дзеліць, а возьмем усё, што нас лучыць, каб стварыць адзіны моцны палітычны рух на эміграцыі, які-б апраўдаў нашае эміграцыйнае існаваньне, ды стаўся фактарам у ажыцьцяўленьні валялюбных імкненьняў нашага народу ў адбудаваньні ягонае дзяржаўнасьці. Што гэта споўніцца, мы моцна верым. Час разрахунку прыбліжаецца хуткім крокам. Набліжаецца час, калі справядлівасьць пераможа гвалт, калі праўда пераможа ілжу, а наша дамаганьне праўдзівае, дык, маючы сяньня самых сябе, бальшыню выдатных саюзьнікаў волялюбных народаў, можна сьмела сказаць, што наша справа стаіць на добрай дарозе.

Дык з надзеяй на лепшую будучыню, верма, што Беларусь будзе Вольнай і Незалежнай дзяржавай, якая займе роўнае месца сярод усіх народаў, будзе будаваць сваё нацыянальнае жыцьцё ды ўнясе свой уклад у здабыткі ўсіх народаў на карысьць усяго чалавецтва.

УЛ. КЛІШЭВІЧ

***

Шумяць ад ветру пальмы, кіпарыс,
Бяжыць вачэй пагляд у неба сіні.
Мільгнуў у думках вобразу абрыс
І зьнік прывабна дзесь у далячыні.

За думкай думка прабягае ўсьцяж,
А вецер шэпча: "Дарагі мой сыне,
Змарыўся ты. Хоць на зямлю прыляж,
Няхай душа хоць крышку адпачыне".

І бачыць роднае журботны чалавек:
Шумяць бары, вядуць размову гоні;
Вазёраў люстры, стужкі срэбных рэк
Выроставаюць у вобраз на улоньні.

І як прыемна марыць у цішы.
Дай адпачыць натхненьнем успаміну!
Нясу сьвятыні вобраз у душы
І так да сьмерці несьці не пакіну.

АФАРЫЗМ

Нехта камень кінуў. На вадзе
Разьбягаліся пярсьцёнкамі кругі.
Кінуў слова мудрае другі,
Не прапала сіла мудрасьці нідзе.
7 красавіка 1963 г.

# UNITED BYELORUSSIAN-AMERICAN COMMEMORATIVE COMMITTEE

401 ATLANTIC AVENUE, BROOKLYN 17, N. Y.
OF

WHITERUTHENIAN (BYELORUSSIAN) CONGRESS COMMITTEE OF AMERICA
250 EAST 4TH STREET, NEW YORK 9, N. Y.
TEL. GRAMERCY 5-4837

AND

BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
401 ATLANTIC AVENUE, BROOKLYN 17, N.Y.
TEL. MAIN 5-9352

March 11, 1963

Honorable*)
Washington 25, D. C.

Dear sir:

We would like to call to your kind attention the following matter which concerns American citizens of Byelorussian origin, and which is also closely connected with American ideals of freedom for all.

Each year the day of March 25 is marked as an anniversary of great importance for American citizens of Byelorussian descent, as well as for all Byelorussians living in the countries of the free world, and in Byelorussia herself, occupied by Soviet Russia today. It is the day on which Byelorussians celebrate the anniversary of the proclamation of independence of their country.

In the past, Byelorussia was an independent country, and she played an important part in the medieval history of eastern Europe. In the early middle ages, Byelorussia appeared in the shape of duchies of Polatsk, Smalensk, Turau, and others. Later, Byelorussia was known as a united state, the Great Duchy of Lithuania. In 1795, this country was forcibly incorporated into the Russian Empire.

Continuous efforts have been made by the Byelorussians in an attempt to regain their independence. A most substantial effort was in 1812, with Napoleon's assistance, and later, in 1863, by armed uprisings under the leadership of Kastus Kalinouski. The revolution of 1917 in Russia offered another opportunity to regain freedom, this time by means of democratic self-determination. On December 15, 1917, the First Byelorussian Congress conceived in the capital of Byelorussia in Miensk, with the aim of establishing an independent Byelorussia. The Congress elected the Rada (Council) and its Presidium as the executive body, which assumed responsibility for the fate of the nation. However, this Congress was attacked and dispersed by the armed forces of Soviet Russia.

Later, on March 25, 1918, the Rada of the Byelorussian Democratic Republic solemnly proclaimed the independence of Byelorussia by passage of the Third Constitutional Act. Armed Forces of Soviet Russia from the East and Poland from the West attacked and conquered the young Byelorussian State and divided her territory among themselves.

The people of Byelorussia defended their independence by armed uprising in the Slutsk district in 1920. However, the Byelorussian forces were brutally crushed by the armies of Soviet Russia.

On June 27, 1944, during the Second World War, the Second Byelorussian Congress convened in Miensk. This Congress annuled all treaties concerning Byelorussia of the occupational governments, and confirmed the proclamation of independence of the Byelorussian Democrotic Republic. The Byelorussian Central Rada organized armed forces: the Byelorussian National Guard, for the fight against Soviet Russia. However, Byelorussia was conquerd again by Soviet Russia.

The Byelorussian Soviet Socialist Republic in existence today was created by Soviet Russia on January 1, 1919 in Smalensk as a satallite and a substitution for an independent Byelorussia. Although the Byelorussian SSR was in-

*) Гэты мэморандум высланы сэнатарам і канґрэсманам у Вашынґтоне, Дзяржаўнаму Сакратару Д. Раску і радыё-ўстанове — "Голас Амэрыкі".

corporated into the USSR, the Russians are not secure about the unity of their empire. Therefore in their slogans which honor the anniversary of the Bolshevik revolution, the Central Committee of the Communist Party of the Soviet Union always calls for 'existence and strength of unbreakable unity and fraternal amity among nations of the USSR'.

Only less than half of the Byelorussian ethnographical territory has ben included within the Byelorussian SSR. About half of Byelorussia has been annexed to Poland, Lithuania, Latvia and Russian SFSR.

For 45 years Byelorussians have been subjected to a violent and ruthless persecution, deportation. As a result of Soviet Russian policy of genocide, Byelorussia has lost about six million of her population.

On the international forum this Russian satellite constantly abuses membership of Byelorussia in the United Nations. However, it is clearly evident that Mr. Pavel Ostapenko who formally represents the Byelorussian SSR in the United Nations, really is an official of the Russian occupational government.

*Складайце ахвяры і падтрымоўвайце беларускую прэсу!*

The russification of Byelorussia is being carried out constantly and in an intensified way. The Russian Communist party and government set as their goal the complete merging of all the non-Russian nations of the USSR into one Soviet Russian nation. Byelorussians are being russified by Russian schools, Russian newspaper and books, with Russian officials and soldiers being sent in great masses into the Byelorussian SSR. The Russians occupy all leading positions in the country.

The antireligious campaign is continuing in the Byelorussian SSR. Many antireligious books and pamphlets are printed. The newspaper 'Zviazda', printed in Miensk, from its November 21, 1962 edition informed about recently printed books as follows:

Discussions about Religion and Knowledge — popular handbook,
Guryev D. — God, Adam and Society,
Danini A. — People, Idols and Gods,
Kovalski N. — Affairs of the Vatican,
Criticism of Jewish Religion — compendium of articles.

The XXI Conference of Communist Party approved a secret resolution, establishing 1965 as the deadline for the closing of all churches in the USSR. The Soviet authorities are systematically closing churches of all denominations, at this time especially in Western Byelorussia. This part of the country was occupied by Russia in 1939. At that time there existed a regular number of churches. According to the report of the secretary of the Central Committee of the Comsomol of Byelorussia, in the Brest district during 1960 and 1961 by the communists were closed 108 Orthodox, 8 Roman Catholic and 7 Baptist churches. In the Grodno district during the same time over 40 Orthodox churches were closed.

Byelorussia is exploited as an ordinary colony by Russia. The official statistics of the USSR show the following:

| Country | Budget for 1963 (Rubles) | Population for 1963 (Approx.) | Per capita (Rubles) | % |
|---|---|---|---|---|
| RSFSR | 27,861,824,000 | 125,502,000 | 222.00 | 138.8 |
| BSSR | 1,375,845,000 | 8,601,000 | 160.00 | 100.0 |

The indicated excess for the RSFSR over the BSSR amounts in general to 7,781,186,000 Rubles, or about a third of the entire budget of the RSFSR in 1963.

The unsuitable communistic system in agricultural Byelorussia has continously been a failure. Agricultural plans in the Byelorussian SSR never were fulfilled. According to the information of the Central Statistical Administration at the Council of Ministers of the BSSR, there was a remarkable decrease in basic agricultural production in 1962 as follows ('Zviezda', January 27, 1963):

| Name | 1961 | 1962 |
|---|---|---|
| Grains (Total), Thousands of tons | 2,264.4 | 1,766.1 |
| Flax (Grain) ' ' ' | 85.3 | 71.3 |
| Sugar — beets ' ' ' | 390.6 | 366.7 |
| Potatoes ' ' ' | 10.924.8 | 7,016.3 |

Livestock for January 1, 1963 in BSSR shows also a decrease as follows:

| Type | Thousands of Heads | Relation to January 1, 1962 (%) |
|---|---|---|
| Cattle | 2,191.8 | 103 |
| Pigs | 3,211.3 | 87 |
| Sheeps and goats | 1,125.3 | 86 |

However, at the same time the delivery of meat to the government increased to 118% in relation to 1961.

There was also a decrease in industrial production in the BSSR, especially for local needs, as follows:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Artificial and synthetic fibres | — | relation of 1962 to 1961 in % — | 99.3 |
| Delivery of timber | — | ' ' ' ' ' ' | 96.0 |
| Brick for building | — | ' ' ' ' ' ' | 94.0 |
| Gypsum | — | ' ' ' ' ' ' | 99.4 |
| Peat for fuel | — | ' ' ' ' ' ' | 78.0 |
| Fish caught | — | ' ' ' ' ' ' | 95.0 |

Plans for production in the BSSR were not fulfilled in 1962 for the following industries (also mostly for local needs): electricity, automatic and semiautomatic transmissions, harvester-combines for fodder, prefabricated reinforced concrete construction, prefabricated synthetic structural slabs, furniture, sewing machines for home use, radio receivers, butter, milk productions, etc.

Less textiles were sold to the population of the BSSR in 1962 than in 1961 as follows:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Cotton-textures | — | relation of 1962 to 1961 in % | — | 89.0 |
| Woolen-textures | — | ' ' ' ' | — | 91.0 |

Working people are exploited by communistic elite in the BSSR in the most shamless way. So, in the richest agricultural area of the Slutsk district the workers of collective farm 'Semeshava' were paid for each working-day a rate of 2.5 kg. of grain and 1 Rubel 20 kop. cash ('Zviazda', December 25, 1962). This represents the highest salary paid to the farmers, and was published for propaganda as an extraordinary achievement.

It would be hard to assume that similar shortcomings are occuring in the Russian industry working on armaments.

Deportations of Byelorussians to the virgin regions of Asia are continuing. Complete families are deported and skilled single persons. Beside communist party pressure, the government also uses various tricks. The school of mechanization of agriculture in Tula (near Moscow) is attracting the Byelorussian youth by many promises. However, after graduation, the people will be sent to work in the virgin regions ('Zviazda', January 24, 1963).

Despite all this oppressive Soviet Russian policy in Byelorussia, we believe that at the convienient time, the Byelorussian people will again open the fight for their independence.

We take the liberty to ask you to support the aims of the Byelorussian people for their liberation from communist Russian slavery on this commemorative occasion of the 45th anniversary of proclamation of independence of the Byelorussian Democratic Republic.

Very respectfully yours,

*John Kosiak,* President
Whiteruthenian Congress
Committee of America

*Constant Mierlak,* President
Byelorussian-American
Association, Inc.

# PROCLAMATION*)

STATE OF NEW YORK

*Executive Chamber*

During this month, Americans of Byelorussian origin, who are among our valued fellow citizens, will celebrate the 45th anniversary of the independence of the land of their fathers.

In 1918, the Byelorussians established a free republic with high hopes that their nation had at last gained its freedom and independence.

Unfortunately, freedom was short - lived. A short time later it was destroyed by Moscow, and the Byelorussian people became one of the captive nations suffering under the tyrnanical yoke of communism. Although the Byelorussian people have known no freedom in more than four decades, the spark of freedom and their desire for independence has never died out.

It is fitting that we show publicly our sympathy with these aspirations.

NOW, THEREFORE, I, Nelson A. Rockefeller, Governor of the State of New York, do hereby proclaim March 25, 1963, as

BYELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY

in New York State.

GIVEN under my hand and the Privy Seal of the State at the Capitol in the City of Albany this fourth day of March in the year of our Lord one thousand nine hundred and sixty-three.

BY THE GOVERNOR (Signed)

*Nelson A. Rockefeller*

(Signed) *William J. Ronan*

Secretary to the Governor

(Seal)

---

Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі,
250 East 4th Street, New York 9, N.Y.

Беларуска - Амэрыканскае Задзіночаньне
Галоўная Ўправа
401 Atlantic Avenue, Brooklyn 17, N.Y.

# Зварот

*да беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў і да ўсяго Беларускага Грамадзянства ў ЗША*

Сяньня ў ЗШПАмэрыкі прыжывае вялікая колькасьць беларусаў ды існуе значная лічба беларускіх арганізацыяў ды ўстановаў, якія гуртуюць беларусаў і служаць беларускім патрэбам. Вялікая бальшыня беларусаў Амэрыкі пасялілася тут на стала, прыняла амэрыканскае грамадзянства і ўносіць свой уклад у жыцьцё сваей новай бацькаўшчыны — Амэрыкі. Адначасна гэтыя беларусы робяць пасільныя захады, дапамагаючы беларускаму народу ў яго імкненьнях вызваліцца з пад акупацыі савецкае Расеі ды адбудаваць вольную і незалежную беларускую дзяржаву.

Адмоўным зьявішчам для дзейнасьці беларусаў Амэрыкі зьяўляецца падзел на дзьве асноўныя групы, які перашкаджае адзінству беларускай акцыі пры абароне беларускае праблемы перад вонкавым сьветам. Карэньні гэтага падзелу сягаюць пэрыяду неакрэсьленай каньюнктуры падчас прабываньня беларускай эміграцыі ў Нямеччыне па 2-ой Сусьветнай Вайне. Глыбейшыя передумовы гэтага падзелу сягаюць глыбока ў мінулае беларускага народу. Калі Беларусь трапіла пад акупацыю, дык акупанты ў іхных інтарэсах праводзілі падзел сярод беларусаў сваімі культурнымі, рэлігійнымі, сацыяльнымі ды палітычнымі ўплывамі.Чымсь падобным зьяўляецца ўмешваньне ў сучаснае беларускае жыцьцё міжнародных дзейнікаў, якія сіляцца праводзіць беларускімі рукамі палітыку адносна Беларусі ў сваіх, а не беларускіх інтарэсах, чым спраўляюць дадатковую цяжкасьць для беларускае справы.

Для самых беларусаў зразумела, што: 1. Поўнавартасную беларускую працу могуць праводзіць толькі самі беларусы; 2. Перадумова посьпеху гэтае працы ляжыць у арганізаванасьці, аб'еднаньні ды сіле самой беларускай грамады; 3. Ідэйныя асновы для беларускай нацыянальнай справы дае ўся гісторыя

*) Аналягічныя праклямацыі выдалі губэрнатары штатаў Нью Джэрзі, Огайё, Пэпсыльвэніі, Каліфорніі і інш., а таксама мэры гарадоў Нью Ёрку, Кліўленду, Пасэйку, Трэнтону і інш.

беларускага народу, пачынаючы ад часоў беларускіх удзельных княстваў, праз Вялікае Княства Літоўскае, праз паўстаньні супроць пазьнейшых акупантаў Беларусі, праз вялікія нацыянальна-вызвольныя ўздымы беларускага народу падчас 1-й і 2-й Сусьветных Войнаў, працягваючы змаганьне ў сучаснасьці супроць расейскай акупацыі.

Таму сярод вялікай бальшыні беларусаў Амэрыкі зараз перамагае імкненьне да аб'еднаньня беларусаў усіх напрамкаў на незалежніцкай базе пры выступленьнях навонкі. Гэтае імкненьне выражаецца ў ладжаньні супольных акадэміяў 25-га Сакавіка, выступленьняў аднэй беларускай групай на агульна-амэрыканскіх маніфэстацыях, як і на выступленьнях у міжнацыянальных арганізацыях Амэрыкі.

Гэтае імкненьне да задзіночаньня беларускіх сілаў Амэрыкі стаўляе на парадак дня справу ягонага арганізацыйнага ўняцьця — стварэньне аднаго воргану, выбранага праз усе існуючыя беларуска-амэрыканскія арганізацыі ды ўстановы, для рэпрэзантацыі на вонкі ды абароны інтарэсаў беларусаў Амэрыкі ды і дапамогі беларускаму народу на паняволенай Беларусі.

Зразумела, што стварэньне такой адзінай у Амэрыцы агульнай беларускай рэпрэзэнтацыі ня спыніць нутраных разыходжаньняў, існуючых паміж рознымі ідэолёгічнымі напрамкамі, як і ня спыніць імкненьняў паасобных напрамкаў да дамінацыі. Аднак, гэтае змаганьне павінна адбывацца шляхам дэмакратычнага працэсу на нутраным сэктары беларускага жыцьця. На вонкі беларусы Амэрыкі, праз супольны аб'еднываючы ворган, маюць выступаць адзіным фронтам паводля узгодненай праграмы.

Арганізацыя агульнай беларуска-амэрыканскай рэпрэзэнтацыі, як і ейнае функцыянаваньне, крыюць у сабе шмат цяжкасьцяў. Аднак, у сучаснасьці мы бачым адзіную даступную нам магчымасьць для ўздыму на вышэйшы ўзровень беларускай нацыянальна-вызвольнай справы ў Амэрыцы як раз праз перамогу наяўных цяжкасьцяў і задзіночаньне высілкаў усей беларуска-амэрыканскай грамады ў вадным рэпрэзэнтацыйным органе, ды праводжаньне дзейнасьці на вонкі адным аб'ядданым беларускім фронтам.

Таму мы заклікаем усе беларуска-амэрыканскія арганізацыі ў далейшым праводзіць на мясцох выступленьні на вонкі разам, паводля ўзгодненай праграмы.

Адначасна мы просім усе беларуска-амэрыканскія арганізацыі ды ўстановы, як і ўсіх беларусаў Амэрыкі, неадкладна выказацца па справе арганізацыйнага аб'еднаньня і стварэньня адзінай беларуска-амэрыканскай рэпрэзэнтацыі па вонкавых справах у Амэрыцы, высылаючы ў сваю цэнтралю: Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі і Галоўную Ўправу Беларуска - Амэрыканскага Задзіночаньня свае погляды і канкрэтныя прапановы.

*І. Касяк,*
Старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі

*К. Мерляк,*
Старшыня Галоўнае Ўправы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Нью Йорк, 5 траўня 1963 г.

---

**
*

Недарост і зайздрасьць — блізьнята.
Я не зайздрошчу нікому:
Ні славутым, ні багатым.
Мо таму, што маю паўдому?...

Я страшэнна рады, што нейк
Захаваўся ўва мне чалавек,
Дабрадушны, хоць ня ціхі,
Бяз хітрошчаў і пыхі...

*Міхась Кавыль*

1963 г.

**
*

Нават сьвет весялей успрыймаю,
Словам цешацца думкі мае.
Халадок вечаровага маю
Мне настрой у душы прыдае.

Мне здаецца зьявіліся крыльлі,
Паднялі. Я у неба лячу.
У такія шчасьлівыя хвілі
Ўсё пад сілу і ўсё па плячу.

*Ул. Клішвіг*

5 траўня 1963 г.

*УЛАДЗІМЕР ГЛЫБІННЫ*

# СМАЛЕНШЧЫНА * * *

## адвечная зямля беларускага народу

*Гістарыгны нарыс*

/Заканчэньне, пачатак гл. ў № 4 за 1962 г./

### VII. БЕЛАРУСЬ АДВАЁЎВАЕ СМАЛЕНШЧЫНУ

Беларусь не гадзілася з адыходам Смаленску да чужое дзяржавы. Беларускія князі неаднокраць рабілі спробы адваяваць горад (у 1535, 1564, 1579 г.г.). Таму маскоўцы пачынаюць як мага ўмацоўваць Смаленск, мабыць, няпэўна адчуваючы сябе ў гэтым беларускім горадзе. Гандлёвы цэнтар яны перанесьлі ў прыгарад перад замкам за Дняпром, што пазьней называўся "Гарадзенскаю сотняю". Задуманая яшчэ за царом Фёдарам Іванавічам каменная сьцяна вакол гораду была збудаваная за Барысам Гадуновым пад наглядам гарадзкога майстра Хведара Коня.

Але дарма, што Смаленск разбудаваўся ў моцную няпрыступную цьвярдыню, аднак і ён ня вытрываў доўгае аблогі ў 1610-1611 г. 31 верасьня 1610 г. смаленскія сьцены пабачылі перад сабою вялікае войска Жыгімонта III, які прывёў яго з намерам выкарыстаць маскоўскую "смуту" і зьвярнуць Смаленск Ліцьве. Адбыліся жорсткія баі. Горад бязупынна абстрэльваўся з гарматаў, пачаліся пажары, аднак, крывавыя баі трывалі далей, бо войска ў Смаленску давала хоць і безнадзейны, але адчайны супраціў. Толькі праз 10 месяцаў пры цяжкай упорыстай аблозе Смаленск быў здабыты. Гэта было 3-га ліпеня 1611 г. Гэтак, бадай, праз стагодзьдзе Смаленск быў вызвалены з-пад маскоўскага паняволеньня. Заміж расейскіх парадкаў у Смаленску пачалі тэрмінова ўводзіцца новыя заходня-эўрапейскія парадкі. Горад адразу атрымаў маґдэбурскае права і пачаў зьмяняцца на эўрапейскі лад. Гэтым самым Смаленск зноў далучыўся да Эўропы. Але, на вялікі жаль, на гэты раз Літва ўжо пераставала быць незалежным задзіночаным Беларускім гаспадарствам. Вунія ліквідавала адзнакі незалежнасьці, пачаўся наступ польшчыны, апалячваньне праз каталіцызм і вуніяцтва беларускага магнацтва, гвалтоўнаеператварэньне праваслаўных беларусаў на католікаў і вуніятаў, а праз гэта далей і на палякаў. Адвечна-праваслаўны беларускі Смаленск пачаў, наўсуперак волі жыхарства, забудоўвацца каталіцкімі касьцёламі, езуіцкімі кляштарамі, дамініканскімі і базыліянскамі школамі, а праваслаўныя цэрквы пераўтвараліся гвалтоўна на вуніяцкія. На Саборнай гары збудавалі катэдральны касьцёл і рэзыдэнцыю біскупа Смаленскай епархіі.

Ад былое свабоды веравызнаньняў і роўнасьці ў правох ў Смаленску за часамі незалежнага Беларускага Княства, цяпер засталіся адны толькі ўспаміны. Вуніяцкія япіскапы ўсё больш і больш прыгняталі праваслаўных. Апошнія на гэта адказвалі зацятым змаганьнем. Змовамі, бунтамі адказваў за ўсё гэта народ. Паўставала шмат праваслаўных брацтваў, якія змагаліся за захаваньне беларускіх народных прынцыпаў, адчынялі беларускія школы, баранілі праваслаўныя цэрквы ад наступу каталіцтва і езуіцтва.

Няправільная, палёнафільская палітыка кіраўнічых колаў рабіла тое, што смаленскае жыхарства, ня бачачы ратунку, пачало схіляць свае надзеі да праваслаўнае Масквы. А тэй толькі гэтага трэ' было, бо гэта стварыла юрыдычнае апраўданьне для ейнай агрэсіі на Захад, давала "падставы" матываваць яе канечнасьцяй "злучыць" з вялікім расейскім народам" ягоную "западную ветвь", далучыць да сябе "западноруссов" — "единокровных" і "единоверных".

Усё гэта паслабляла сілы супраціву маскоўскай экспансіі. Аднак, ня лёгка ўдаецца Маскве адарваць Смаленск ад Беларусі.

У 1612 г. цар Міхал Раманаў шле з гэтаю мэтаю войска на чале з князем Чаркаскім. Той здабыў колькі беларускіх гарадоў, але Смаленску заваяваць ня здолеў. Ды Масква

на гэтым ня спыняецца. За колькі часу яна пачынае вялікія вайсковыя падрыхтовы, купляе зброю ў Швэдыі, вырабляе гарматы, рыхтуе дапаможнае войска пад кіраўніцтвам замежных афіцэраў. За 9 гадоў пасьля пачатку гэтае падрыхтовы, у 1632 г., скарыстаўшы бескаралеўе ў Польшчы, маскоўскае войска, пад кіраўніцтвам ужо ведамага ў Смаленску маскоўскага стаўленьніка — Шэйна, аблажыла Смаленск і пачало яго абстрэльваць з 158 гарматаў. Але на дапамогу літоўскаму войску прыйшоў гэтман Радзівіл з Вільні з 33.000 войска і адбіў наступ маскоўцаў. Апошнія змушаныя былі ад наступу перайсьці да абароны ў вакопах, а пасьля зусім адыйсьці назад паводля зробленае ўмовы. Так гэтым разам ганебна для Масквы скончыліся ейныя намаганьні адарваць Смаленск ад Беларусі. І толькі за царом Аляксеем Міхайлавічам, ужо ў часе Лівонскае вайны, колькімі штурмамі маскоўцы здабылі Смаленск (23. VI. 1654 г.).

## VIII. СМАЛЕНШЧЫНА Ў МАСКОЎСКІХ АКОВАХ

Пасьля заняцьця Смаленску маскоўцы зараз-жа ўзяліся за ліквідацыю ў горадзе маґдэбурґскага права, заходня-эўрапейскіх парадкаў і пачалі ўводзіць"российские уложения". Адно толькі засталося на радасьць народу — гэта зварот праваслаўным беларусам усіх цэркваў, што былі перад гэтым ператвораныя на вуніяцкія і каталіцкія. Але і тут царква неўзабаве пачала служыць русыфікатарскім тэндэнцыям маскоўскае палітыкі.

Гандаль і прамысловасьць зноў перайшлі ў прыгарад, куды былі высланыя і ўсе гандлёвыя людзі, бо горад-цьвярдыня зноў пачаў інтэнсыўна ўмацоўвацца. Тут разьмяшчаліся вялікія аддзелы маскоўскага войска.

У часе Лівонскае вайны, як і ўсе беларускія гарады, Смаленск асабліва пацярпеў, шмат гістарычных і культурных помнікаў згінула ў полымі, або пад руінамі.

Паводля Андрусаўскае ўмовы 1667 г., Смаленск ужо надоўга быў далучаны да Расеі і каля трох стагодзьдзяў церпіць маскоўскую нядолю.

Ад часу далучэньня да Расеі Смаленск губляе сваё стратэгічнае значэньне. Толькі за часоў Пётры Вялікага Смаленск зноў умацоўваецца. Рыхтуючыся да вайны з швэдамі, Пётра будуе ў 1706 г. на правым беразе Дняпра Кронвэрк, каб засланіць ім мост, збудаваны пад вежамі, і парахоўніцы. Але швэдзкі кароль Караль XII абыйшоў Смаленск, і бойкі адбыліся каля Палтавы на Ўкраіне.

Вялізарныя разбурэньні зрабіла Смаленску Напалеонаўская армія ў 1812 г. 6 жніўня Напалеон падыйшоў з сваёй арміяй да гораду і, спаткаўшыся з надта моцным супрацівам расейцаў, пачаў абстрэльваць яго з гаўбіцаў выбуховымі гарматнымі набоямі ды запаліў горад з колькіх бакоў. Згарэла шмат выдатных гістарычных будынкаў і помнікаў.

2-га лістапада, пакідаючы горад, Напалеон спаліў ладную частку яго і ўзарваў 9 вежаў славутае смаленскай сьцяны. Згарэла 45 каменных і 7.568 драўляных будынкаў; 69 каменных і 248 драўляных крамаў. Страты дасягнулі 600.000 рублёў — сума для гэных часоў надта вялікая. Нездарма 1812 г. увайшоў у гісторыю Смаленску, як год разбурэньняў. Пасьля гэтага Смаленск яшчэ больш згубіў сваё былое стратэгічнае і гандлёвае значэньне.

Шмат гадоў пасьля гэтага па ўсім Смаленску былі відаць папялішчы і руіны. Пад таўстымі, нанесенымі ў вякох, напластаваньнямі застыла багатая мінуўшчына гэтага гістарычнага беларускага гораду.

Варта адхіліць заслону часу, зазірнуць у глыб стагодзьдзяў, як зроку паўстаньне абраз таго, што жыў тут беларускі народ, тварыў сваю самастойнасьць, крывёю бараніў сваю дзяржаўнасьць, ствараў багатыя матар'яльныя вартасьці і культурныя помнікі свайго існаваньня і дзейнасьці. Пад гэтымі пластамі глыбака ляжаць сьляды былое славы і магутнасьці. Шмат гавораць беларускаму сэрцу гэтыя помнікі былое велічы, а таму, як кажа Ластоўскі, яны павінны быць для нас сьвятымі, і мы павінны бачыць у іх сьветчаньне "забітай волі крывічоў", а дату далучэньня Смаленску да Масквы — каля трох стагодзьдзяў таму падпісаную Андрусаўскую згоду — павінны разглядаць, як вялікшае злачынства, роўнае Вэрсальскаму трактату і ганебнай Рыскай умове, што пазьней разадрала цела нашае Бацькаўшчыны на дзьве палавіны і аддала іх нашым ворагам.

Смаленскіх сьцен масыў патужны

ў бязсільлі распластаўся,
Забітай волі Крывічоў
мне ён нагробкам здаўся!...
Андрусаўскі злачын яго ўчыніў
сатрапіяй Маскоўскай:
і дзьвесьці зь лішнім год, цягаючы ярмо,
яго раджайны гоні
кармілі чужакоў і ворагаў пладзілі
Крывіцкае Пагоні.
Аж дзьвесьці цяжкіх год каханьня
сьлязьмі і потам абліваўся...
Смаленск!
Праз мукі, горасьці свае,
у рэшце-рэшт,
Сьвятым для нас ты стаўся!

*В. Ластоўскі "На Смаленскіх сьценах"*

## IX. ВЫДАТНЫЯ СМАЛЕНЦЫ — СЫНЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ГЭНІЯ

Дарма, што былая веліч народнага духу пахаваная ў гісторыі Смаленску, але народ выяўляў сваю сілу і творчы дух у тым, што час ад часу даваў выдатных людзей, якія множылі дасягненьні навукаў і мастацтваў.

Смаленскія беларусы далі нямала выдатных вучоных, музыкаў, пісьменьнікаў, мастакоў. Назавём тут выдатнага беларуса, ураджэнца Смаленшчыны, праф. В. В. Дакучаева — заснавальніка навейшага кірунку навукі глебаведы, якую пасьля сыстэматызаваў ягоны вучань праф. Сібірцаў.

Нельга абмінуць і другога выдатнага беларуса (на'т з сьведамасьці, бо гэтак і называў ён сябе), сусьветна-ведамага дасьледніка Цэнтральнай Азіі, гэн. Міколу Пржэвальскага (1839-1888), які паходзіць з Парыцкага павету і ўзгадаваўся ў Смаленску, а таксама ўдзельніка экспэдыцыяў Пржэвальскага, П. К. Казлова, вучонага—геаграфа, архэялёга і этнографа з Смаленску.

Урэшце, з смаленскіх беларусаў паходзіць і сусьветна-ведамы кампазытар Міхал Глінка, творца опэраў "Іван Сусанін" і "Руслан і Людміла". Кампазытар Глінка нарадзіўся ў 1804 г. у беларускай вёсцы Новапаская, Ельніцкага павету. Там ён узгадаваўся, а пазьней доўга жыў наездамі. Ад маленства ён чуў там беларускую народную песьню і на ёй гадаваў сваё вуха. Першую музычную асьвету Глінка атрымаў пад уплывам канцэртаў аркестры свайго дзядзькі, які прыяжджаў да ягонага бацькі ў госьці разам з сваімі прыгоннымі музыкамі з суседняга двара. Гэтыя музыкі-беларусы ахвярбоўвалі ўсімі асаблівасьцямі беларускае народнае музыкі выкананьне якога-хаця музычнага нумару і, апрача гэтага, самі сьпявалі шмат беларускіх песьняў і гралі на розных народных музычных інструмэнтах. Усё гэта ўразіла маладога Глінку і глыбока запала ў ягоную музычную душу, адклаўшы назаўсёды ў ёй сьлед замілаванасьці да мэлёдычнасьці беларускае народнае песьні. Пасьля, творачы выдатныя музычныя творы, Глінка поўнымі жменямі чэрпаў з гэтае скарбніцы. Музыка опэры "Іван Сусанін" цалком прасякнутая беларускімі народнымі матывамі, якія сусьветнай музычнай крытыкаю памылкова прыймаліся за зьлітак польскіх і расейскіх музычных народных матываў.

Толькі тое, што на карце Эўропы ня было беларускае палітычнай адзінкі, прычынілася да гэткага рабунку беларускае культуры, як адабраньне ад беларускага народу ягоных лепшых сыноў.

Скрозь распаўсюджванае і афіцыйна падтрымліванае ўрадавымі расейскімі коламі атоесамліваньне праваслаўнага веравызнаньня з належнасьцю да "расейскага народу", перасьлед усяго беларускага, паўсюднае панаваньне расейскае мовы ўва ўсіх асьветна-культурных і адміністрацыйных установах, культываваньне расейскага нацыяналізму і палітыка расейскае асыміляцыі беларусаў зрабілі тое, што Глінка гэтаксама, як пазьней і беларус, паводле продкаў, Тодар Дастаеўскі, стварылі шмат славы расейскаму народу. Таксама, як блытаніна паміж каталіцтвам і польскаю народнасьцю, ды нястача агульнага вызнаньня беларускае мовы, як літаратурнае, штурхнулі другога выдатнага сына беларускага народу — Адама Міцкевіча, сына наваградзкага беларускага шляхціча, у вабдымкі польскае мовы, у якой ён стварыў свае паэтычныя пэрлы.

Але, як правільна гаворыцца ў артыкуле В. Ластоўскага "Тодар Дастаеўскі і Адам Міцкевіч, сыны крывіцкага народнага генія" (у часапісе "Крывіч" № 10 за 1926 г.), усе яны былі "цела ад цела і кроў ад крыві" беларускага народу і павінны, хай і ўскосна, складаць славу беларускаму нацыянальнаму

генію. Калі-б гэтыя людзі жылі ў вадроджанай беларускай дзяржаве з панаваньнем беларускае культуры і дзяржаўнай беларускай мовай, бяз сумлеву яны тварылі-б у роднай мове і музыцы і здабылі-б незраўнанай у вяках славы беспасярэдня свайму народу. І тады-б увесь сьвет зусім заслужана ўважаў-бы Глінку за заснавальніка не расейскае, а беларускае нацыянальнае клясычнае музыкі і опэры, і ён быў-бы беспасярэдня нашым гонарам.

Але і без таго Смаленск з поўным правам мае ўсе падставы ганарыцца сваім слаўным сынам — кампазытарам Глінкам, якому ўдзячны горад яшчэ ў мінулым стагодзьдзі паставіў помнік. Ён уяўляе сабою постаць кампазытара з дырыгэнцкай палачкай у руцэ. На п'едэстале надпіс і дата (1885 г.), а па баках у вянку — назовы галоўных твораў. Вакол — агарожа ў выглядзе нотаў. Помнік павінен нам нагадваць пра вялікія творчыя чыны беларускіх сыноў і натхняць на новую творчасьці, і духовую і матар'яльную. Да гэтага-ж кліча і ўся багатая чынамі мінуўшчына беларускага Смаленску.

## X. НІ ЗМУС, НІ ГВАЛТ НЯ ВЫНІШЧЫЛІ БЕЛАРУСКАСЬЦІ СМАЛЕНШЧЫНЫ

Усе вучоныя, нават расейскай арыентацыі, заўсёды ў навуковых працах сьцьвярджалі належнасьць Смаленшчыны да Беларусі. Варта прыгадаць працы ведамых вучоных Кіркора, Максімава і Сямёнава, Даўнар-Запольскага, Дабравольскага, Раманава, этнаграфічныя мапы Ахматава, Карскага, Азбукіна, Смоліча і Пікуліка і г.д., працы шмат якіх нямецкіх вучоных, каб пераканацца ў гэтым.

Паводля ўсіх этнаграфічных адзнакаў, як мова, культура, характар, заняткі жыхарства, фізычны тып, вопратка і г.д. смаляне зьяўляюцца карэннымі беларусамі.

Дый не магло быць інакш, бо сама прырода як-бы вылучыла ўсю Беларусь разам з Смаленшчынай у вадну геаграфічна-эканамічную і этнаграфічную асобнасьць

Вялікі эўрапейскі вададзел, што праходзіць праз усю ўсходнюю Смаленшчыну, ды вялікія лясы на поўначы і ўсходзе гэтае краіны (Вокаўскі, Бранскі) уяўляюць сабою якбы натуральныя межы. Усходняя мяжа Беларусі на Волскім вададзеле супадае з кліматычнаю мяжою Вокаўскага лесу і выразна аддзяляе Беларусь з ейным памяркоўным вогкім пад уплывам мора кліматам ад больш кантынэнтальнага і рэзкага клімату Маскоўшчыны.

Гэтыя натуральныя межы супадаюць і з гістарычнымі межамі калішняй Беларускай Дзяржавы, Вялікага Княства Літоўскага, паводля, скажам, Дэўлінскага замірэньня ў 1618 г. дый ранейшых умоваў.

На паўдня і ўсход ад гэтых межаў жывуць беларусы, якія, паводля расавага і этнаграфічнага адзінства, стварылі тую народную асобнасьць, неаддымнай часткаю якое зьяўляюцца і беларусы смаленскія. Як усім беларусам, ім свомыя перш-на-перш тыя-ж самыя асаблівасьці мовы, як пераход "в" і "л" у "ў"; дзеканьне (не здарма і пра смаленцаў кажуць: "Хіба ліха возьме ліцьвіна, каб ён ня дзекнуў"), цеканьне і аканьне, прыдыхное расейскага гуказлучэньня "жж" беларускім "ждж", зьмякчэньне зычных перад мягкімі гукамі ды навет цьвярдое "р".

Дарма, што Смаленшчына знаходзілася пад Расеяй больш, чымся якая іншая мясьціна Беларусі (агулам бяручы 350 гадоў!) і страшэнна русыфікуецца яшчэ больш сяньня, аднак народ і тут захаваў галоўныя асаблівасьці свае мовы. Тут варта прыгадаць і надрукаваныя ў часе вайны ў беларускай прэсе зацемкі, што да беларускіх усходніх прастораў ("Раніца" № 43 /107/, за 15 лістапада 1942 г.).

Для высьвятленьня стану беларушчыны ў Браншчыне і Смаленшчыне там знойдзем каштоўныя факты, якія падаў беларускі дзеяч, якому давялося ў 1941 г. колькі часу працаваць ува ўсходняй Беларусі. Паводля ягоных сьцьверджаньняў, найбольш зрусыфікаваныя гарады, але на сяле добра выявілася жывучасьць беларускае мовы з усімі ейнымі асаблівасьцямі, прычым, лепш на паўдні, як на поўначы. "Браншчына" ўся аж пад Арол захавала вельмі добра беларускую мову. Тут спатыкаюцца ўсе ейныя асаблівасьці... У Смаленшчыне — беларушчына так-жа добра захавалася, хоць і не ўва ўсіх паветах (ува ўсходніх горш, як у заходніх). Цікава, што і самы Смаленск з моўнага гледзішча ня выглядае надта страшна. Людзі гавораць тут з паважна захаванымі асаблівасьцямі бела-

рускае мовы. Асабліва войстра ўтрымалася аканьне і дзеканьне. Далей на поўнач беларушчына захавалася адносна добра аж да г. Белага. Гэта пацьвердзіў нават адзін прафэсар-смаленец, які добра ведае гэныя абшары".

Цікава, што і ў самай найноўшай літаратуры аб Смаленшчыне ёсьць багата фактаў, што сьцьвярджаюць належнасьць яе да беларускага этнаграфічнага абшару.

Гэтак, прыкладам, прафэсар П. Чэрных да свае працы *"Историгеская грамматика русского языка"* (выданьне другое, Учпедгиз, Масква, 1954 г.) дадаў Дыялектычную Мапу Ўсходнеславянскіх моваў. Паводля гэтае мапы, уся Смаленшчына і Браншчына аднесеныя да тэрыторыяў беларускае мовы.

Вельмі вымоўнае сьведчаньне беларускасьці Смаленшчыны мы маем і ў найноўшай працы ведамага нястомнага навукоўца ў галіне гістарычнай дыялекталёгіі ўсходнеславянскіх моваў, вучня і пасьлядоўніка акад. А. Шахматава — праф. Паўла Растаргуева (1881-1959). Яшчэ ў 1927 г. П. Растаргуеў выдаў знаную каштоўную для навукі працу *"Северско-белорусский говор"*, за якую ён тады атрымаў годнасьць доктара філёлягічных навукаў. У 1960 г. Акадэмія Навук СССР у Маскве пасьмяротна выдала працу праф. П. Растаргуева *"Говоры на территории Смоленщины"*. Дэталёвае вывучэньне гаворак заходняй Смаленшчыны Растаргуеў асабіста праводзіў у 1929, 1930 і 1931 гг. Тады ён зрабіў багата запісаў і беспасярэдніх назіраньняў. Асабістыя назіраньні Растаргуеў падмацаваў адказамі на адмысловую "Анкету па гаворкам Смаленшчыны", якая была надрукаваная Навукова-дасьледчым інстытутам моваў у Маскве і разасланая аўтарам па школах Смаленшчыны ў ліку 510 паасобнікаў. У дадатак Растаргуеў дэталёва прааналізаваў багатыя дыялектычныя матар'ялы і супаставіў іх з дадзенымі архэялёгіі, гісторыі, гісторыі матар'яльнай культуры, этнаграфіі. Выкарыстаў ён і "Смаленскі этнаграфічны зборнік" В. Н. Дабравольскага, рукапісныя матар'ялы Акадэміі Навук СССР і Рускае геаграфічнае грамады, як і іншыя матар'ялы. Гістарычнадыялекталягічнае дасьледваньне праф. Растаргуеў правёў навукова-лінгвістычным мэтадам. Ён з усяго вялізарнага матар'ялу выбраў адно тыя факты, якія былі дасканала задакументаваныя і мелі дакладны адрас асобы і мясцовасьці, дзе рабіліся запісы.

У гістарычнай частцы П. Растаргуеў азначыў Смаленшчыну, як тэрыторыю, якую займалі смаленскія крывічы, і дыялектная мяжа якое праходзіць па моўнаму разьдзелу паміж беларускімі гаворкамі і сярэднявялікарускімі і паўднёвавялікарускімі гаворкамі. Тут, на Смаленшчыне, пачынаўся гістарычны стык беларускае мовы з расейскай. Старыя гаворкі смаленскіх крывічоў зьявіліся падставаю для беларускае мовы Смаленшчыны. Заходняя Смаленшчына і да сяньня захоўвае беларускі характар свае мовы, хаця-ж шматгадовы ўплыў расейскае школы, адміністраваньне ў расейскай мове, адсутнасьць беларускай кнігі і вылучнае карыстаньне расейскай літаратурай, радыё і тэатр робяць сваю справу ў сэньсе паступовай страты самабытных моўных рысаў. Праф. Растаргуеў паказвае, як у выніку перасяленьняў і мяшаньня насельніцтва на тэрыторыі Смаленшчыны, удзелу ў грамадзкім і палітычным сучасным жыцьці на вёсцы і працы шматлікіх смаленцаў на фабрыках у Ярцаве, - русыфікацыя здабывае сабе ўсё больш смаленцаў. Некаторыя высновы праф. Растаргуева наводзяць на пэсымістычныя думкі. Падкрэсьліваючы працэс моўных зьменаў, дасьледчык піша аб тэндэнцыях моўнага руху ў бок расейскае мовы: "Стан гэтых рысаў, — піша Растаргуеў — у гаворках Смаленшчыны гэткі, што можна гаварыць аб разьвіцьці гаворак па шляху страты іхных карэнных беларускіх рысаў і замены іх расейскімі" (стар. 181). Але сам аўтар пры гэтым адзначае адно тэндэнцыі працэса зьмены гаворак, але ён зусім не запярэчвае беларускую аснову іх, асабліва ў моўна-гістарычным пляне. Гэтаму сьведчаньнем зьяўляецца вялізарны і каштоўнейшы матар'ял, прыведзены Растаргуевым на балонках гэтае кнігі, што да фанэтыкі, марфалёгіі, лексікі і сынтаксіса мовы смаленцаў. Цэлы шэраг цікавых фактаў моўных назіраньняў і запісаў гэтак і пераліваюцца і зіхацяць жывою беларушчынай, прыкладам ілюстрацыі да разьдзелу аб вакалізьме, дыссымілятыўнага аканьня, вымовы галосных у першым складзе перад націскам, кансанантызма, асабліва наяўнасьць беларускага *г*, перад білябіяльнага w у *ў* або *у*, пераважаньне формаў мі-

нулага часу дзеясловаў з канчаткам на *ў* заместа *л*, дзеканьне і цэканьне.

Багата цікавых арыгінальных беларускіх словаў Растаргуеў прывёў у альфабэтным парадку назьменных словаў і скланяльных і спрагальных формаў. Ў разьдзеле словаўтварэньня нельга абыйсьці міма тыпова беларускіх суфіксаў ёнак — Іванёнак, Пятронак, прозьвішчы ад уласных імёнаў — Сьцяпанчыкаў, Сілаенкаў, Марыянкоў. Стары смаленец М. Палашонкаў з вёскі Надва, Катынскага павету на Смаленшчыне, расказаў Растаргуеву, як у пачатку 40-х гадоў мінулага стагодзьдзя ён "прыстаў у прымні" і ажаніўся на гаспадаровай дачцы Ганьне, прыняўшы прозьвішча жонкі "Палашанька" ад імя Палаха — "Палаша". Вось жа мова гэтага смаленца нагэтулькі чыста-беларуская, што можа больш вымоўнага прыкладу беларускасьці мовы смаленцаў і не патрабуецца. Наўсуперак некаторым выснавам, увесь фактычны матар'ял кнігі праф. Растаргуева *"Говоры на территории Смоленщины"* цалкам падцьвярджае нашыя думкі і навукова-лінґвістычна падмуроўвае іх, стварае нашым выснавам неабвержаны фундамант.

Гэтак моцна народ трымаецца свае мовы нават там, дзе на зьліквідаваньне яе было ўжыта безьліч моцных сродкаў, як вылучна расейская школа, друк, тэатар, літаратура, прызнаньне за ўрадавую толькі расейскае мовы, гвалтоўная забарона ўсяго беларускага і перасьлед тэрорам усялякае праявы беларушчыны.

Аднак-жа ні змус, ні гвалт канчальна ня вынішчылі беларускае душы смаленца, бо ейныя асаблівасьці маюць моцныя традыцыі ў мінуўшчыне.

Паходзячы ад асноўнага беларускага плямя крывічоў і жывучы праз стагодзьдзі ўваднэй дзяржаве з усімі беларусамі, смаленцы не маглі ня мець аднае з імі мовы. Смаленскі беларус, пераважна селянін, гэткі, як і ўсе беларусы. Падставай ягонага быцьця зьяўляецца здаровая земляробская праца. І хоць прырода не дала смаленцу багатае глебы, аднак стараннасьць і ўпорыстасьць ягонае працы на малаўраджайных глебах можа зьдзівіць. Смаленскі селянін шмат перапрабаваў за жыцьцё заняткаў, часам адыходзіў ад зямлі на заработкі, але далей за сваю смаленскую краіну, далей за Парэчча, за дняпроўскія ды дзьвінскія прыстані ён не вандруе і ня возіць. Урэшце ўсё-ж ткі ён вяртаецца на сваю няўдзячную зямлю і ўкладае ў яе ўсю сваю сталую любасьць да працы, цярплівасьць, упорыстасьць, усе высілкі, і пад ягонымі працавітымі рукамі камяністыя і пяшчаныя глебы ператвараюцца ў шырокія нівы.

Не заўсёды зямля бывае ўдзячнай гаспадару за гэтую працу, і тады міжвольна складае ён сумную песьню:

Няма хлеба, солі,
няма шчасьця, долі!
Поле пусьцеець,
І нечым сеяць.
Ня будзем жыці,
Пойдзем блудзіці.

Але гэта толькі выява ягонага мягкага пяшчотнага беларускага характару з ягоным нахілам да лятуценнасьці, багатага ўяўленьня і фантазіі. Ня пойдзе ён у сьвет блудзіць, бо ведае, што ня ласкаю стрэне яго чужынец.

Чужая старана
Тугою араная,
Сьлязьмі паліваная.

Смаленскі селянін мае на запас і прыказкі: "Паміраць зьбіраешся, а жыта сей". Вось-жа і ня ідзе ён з свае зямлі, якая бачыла ў вяках тут ходаньне шмат якіх сілаў. Сядзіць на ёй смаленец ужо шмат вякоў і ўратоўвае сябе ад асыміляцыі. З чыста беларускай асаблівасьцю даматурства трымаецца свайго палетку, свае мовы, і гэтым бароніцца ад страты свае нацыянальнасьці. А пра свайго ўсходняга суседа мае добрае дазнаньне, што выпрацавалася ў вяках зяцятага ходаньня Беларусі з Масквою і выеўленае ў дасьціпных прыказках.

"Калі маскаль кажа суха, то падымайся да вуха: бо ён брэша".

"Ад чорта адхрысьцішся, а ад маскаля не адмолішся: ад маскаля полы падрэж ды ўцякай".

Гэтак выразна ўсьведамляе сваю адрознасьць ад расейца смаленскі беларус і замацоўвае гэтае ўсьведамленьне ў вуснай народнай творчасьці. Ды ўжо гэтае адрозьненьне найлепш робіць і сама мова смаленца, багатая

агульна-беларускімі словамі, як хата, кубел, калыска, бажніца, пол (замест расейскага "Полати"), страха, катух, хустка, камізэлька (замест расейскага "жилет"), хадакі ці чаравікі, кавалак, андарак ("і ў людзі і ў кабак — усё адзін андарак"), кравец, шавец, магерка, сьвітка, намітка, бохан, клёцкі, калдуны, ладкі, панцак, крупнік, шмалец, страва, бульба, крыніца, шкода (зам. рас. "беда") іг.д. г.п.

Усе гэтыя словы, як ня трэба лепш, сьветчаць пра лучнасьць смаленскага слоўнікавага складу з агульна-беларускім. Апрача таго, кажнае з іх зьяўляецца добрым паказьнікам беларускасьці ўсіх жыцьцёвых абставінаў смаленскага селяніна, яны, нераўнуючы, тыя сымбалі, што хаваюць за сабой беларускі нацыянальны характар, усяго гэтага багацьця, у якім гэтымі словамі называюцца асобныя рэчы ці зьявы і комплекс якіх дае шырокі абраз іхнага нацыянальнага твару. Смаленскі акруговы слоўнік Дабравольскага дае дзеля гэтых высноваў багаты матар'ял.

Аб беларускім складзе народнае мовы Смаленшчыны могуць добра сьветчыць, прыкладам, гэткія, пададзеныя Максімавым, сказы вазьніцаў перад карчмою да шынкара:

— "Рандар, рандар! адчыні вароты: дай гарэлкі! Ах-ці якая мяцеліца: саусім перазяблі, і коні чуць цягнуць, і ноч цёмная, нічога ня відна, і дарогу так замяло, што і найці ня можна. Рандар, рандар, адчыні вароты, налівай гарэлкі!"

Трэба вызнаць і немалы ўклад Смаленшчыны і ў найноўшае беларускае адраджэньне. Ведама, што смаленскія дэлегаты, удзельнікі Першага Ўсебеларускага Кангрэсу ў Менску ў сьнежні 1917 году найбольш пасьлядоўна абаранялі пагляды незалежнікаў, ня ў прыклад магілеўскім "абласьнікам". Смаленскія дэлегаты ўсьвядомлівалі сябе дзецьмі маці-Беларусі і найбольш адкрыта і рашуча дамагаліся дзяржаўнага самавызначэньня Беларусі на ўсіх ейных этнаграфічных абшарах.

Смаленшчына дала беларускай літаратуры такога выдатнага пісьменьніка, як Максім Гарэцкі, які ўзбагаціў беларускую літаратурную мову багацьцем моўнае адмены нашае ўсходняе поўначы. У смаленскай вёсцы Калесьнікі, Хіславіцкай воласьці, нарадзіўся беларускі паэт Зьмітрок Астапенка (1910-1944), які таксама, як і Гарэцкі, унёс багата смаленскіх арыгінальных словаў у беларускую паэзію. Уцякаючы ад саветаў праз Славаччыну, ахопленую паўстаньнем у 1944 годзе, Астапенка загінуў з словамі звароту да любай Беларусі, словамі бязьмежнай любові да бацькаўшчыны, якой ён аддаў сваё кароткае, але творча плённае жыцьцё. Ягоная паэма "ЭДЭМ" і шматлікія вершы цалкам спраўдзілі прадбачаньне Якуба Коласа, які ў 1928 годзе, будучы ў Мсьціслаўлі ў Пэдагагічным Тэхнікуме, падараваў Зьмітраку Астапенку сваю кнігу з надпісам, у якім прадракаў будучыню вядомага паэты і тым акрыліў малады талент.

Вывучэньне моўных асаблівасьцяў Смаленшчыны можа быць асабліва плённым для збагачэньня беларускае мовы. Прыкладам, колькі прыгожасьці і самабытнае адмены хаваецца ў словах, запісаных на Смаленшчыне і прыведзеных А. Адамовічам на адной з дыскусійных зборак у Нью-Ёрку ("Конадні", №3, 1955, бал. 94-95). Вось некаторыя зь іх: утравець (зарасьці травою), асянець, абасянець (рабіцца надвор'ю, як увосень), раўніць (дзяліць на роўныя часткі), ірміцца, зайрміцца ў сэньсе загарэцца нейкім пачуцьцём, глыбіць (дамагацца), дымна (цяжкі настрой), работашна (шмат работы), вуздыхна, зямельна, улюбі (у каханьні), уцьверазі (у цьвярозасьці), час улягу, угадзіне (позьні час), удаліна (чужына). Або гэткія сынонімы і антонімы: разумлівы, бязумлівы, безум, касьнік (прамень), адкосак (водбліск), шумцець, шумархаваць, гульляваць, народліва, прынародна, заўвеціць, заўвета (ветлая заўвага), загада, закор (дакор), маладзьга (аб моладзі грэбліва), прыродак (прырода), падаўтараць (паўтараць яшчэ раз), пераказваць (паўтараць у гаворцы), падаваць (быць падобным), працяглівы, накупіць (падкупіць), намахнуцца, басавік (басяк), нямінучая (нямінучасьць), вухарэз (галаварэз), гарывы (гарысты), нізовы, гулявы (гуляшчы), лёгкаабычны (лёгкадумны), цанаваць (ценіць), собства (уласнасьць), пульга (завея), маравы (морскі), маранік (марак), праказацца (праявіцца), ціхім маньнем ("ціхай сапай"), на гулянках (вольным часам), абкіраваць (арганізаваць справу), налажыць імя (даць імя), пакласьці (умовіцца), паклад (умова), вомя-

га (атрута), выйма (міма), сплавадзіць (збыць), наплавадзіць (навадніць), мазны, мазьненькі (мізэрны), паднебесь (гарызонт), заняважыць (зьбянтэжыць), пасылаваць (камандыраваць), паязда (экспэдыцыя), судлівы (крытычны), судлівіць (крытыкаваць), чырку-чырк (акурат).

Сп. А. Адамовіч таксама прапанаваў колькі смаленскіх словаў на зьмену ўжываемым часта барбарызмам і жарганізмам (глядзіце тамжа). Яны вартыя ўвагі ўсіх беларускіх мовазнаўцаў. Варта прывесьці і іх: намінаць, намінка (намякаць, намёк), перагосткі (абмен візытамі), адгосткі (паўторнае адведаньне), хаджане (праходжыя), увед (іспыт), спытка ("пробка"), мульлё (пролежні), машурга (мішура), праграчыць (празяваць), брыжыковыя дзяўчаты ("кисейные барышни"), здобіль ("изобилие"), дасьпяшны (пасьпяховы), дасьпех (посьпех), посуд (судно, шугавы (ветраны чалавек), весьці за (уважаць за).

Агромністую колькасьць самабытных словаў заключае ў сабе ведамы "Толковый словарь живого великорусского языка" Уладзімера Даля, у 4-х томах. Багата іх у вядомым слоўніку беларускае мовы Насовіча. Значная частка гэтых словаў ўжываецца і ў іншых мясцовасьцях Беларусі і ўвайшла ў агульна літаратурную сучасную беларускую мову. Уклад смаленцаў тут асабліва вялікі і заслугоўвае свайго вызнаньня і належнае ацэны, а таксама навуковага вывучэньня. На вялікі жаль, гэтае вывучэньне ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы вельмі запынілася дзеля ўлучэньня Смаленшчыны ў склад Расейскае Фэдэратыўнае Савецкае Рэспублікі. Таму беларускія моваведы пры Інстытуце Мовазнаўства Акадэміі Навук БССР у Менску змушаныя абмяжоўваць абсяг сваіх дасьледваньняў межамі сучаснае БССР. Праўда, у 20-х гадох Смаленшчына вывучалася беларускімі навукоўцамі, і тады шмат было зроблена для яе вывучэньня ў Інстытуце Беларускае Культуры, а на пачатку і ў Беларускай Акадэміі Навук у Менску.

А паслухайце народныя песьні Смаленшчыны. Гэта тыпова беларускія народныя песьні з тэю-ж самаю моўнаю і музычнаю асноваю. Для прыкладу, вазьмеце жартоўную (у зборніку Дабравольскага, ч. IV):

Да сею-ж я (2)
У гародзе чарнушачку,
Пад гародам пятрушачку,
Да сею-ж я.
Да палю-жа я
У гародзе чарнушачку,
Пад гародам пятрушачку,
Да палю-жа я. (2)
Да бяру-жа я (2)
У гародзе чарнушачку,
Пад гародам пятрушачку
Да бяру-жа я .
Навару-жа я (2)
Да старому качана з бураком,
Маладому кісяля з малаком,
Навару-жа я. (2)
Пасьцялю-жа я (2)
Да старому на ўзапечкі,
Маладому да на покуце,
Пасьцялю-жа я. (2)
Падлажу-жа я (2)
Што старому да дзяружачку,
Маладому да падушачку,
Падлажу-жа я. (2)
Прабуджу-жа я (2)
Што старога ды піхаючы,
Маладога абдымаючы,
Прабуджу-жа я. (2)
Праваджу-жа я (2)
Як старога із сабакамі,
Маладога із музыкамі,
Праваджу-жа я (2).

Цікава адзначыць той факт, што ў выданьне Беларускай Акадэміі Навук — "Песьні беларускага народу" т. І, Менск 1940 г., увайшло шмат беларускіх песьняў, запісаных на Смаленшчыне ведамымі этнографамі, як Дабравольскі з ягоным "Смаленскім этнаграфічным зборнікам" ч. І, 1891 г., ч. II, 1893 г., ч. IV, 1903 г., як Насовіч, Раманаў і інш.

У кнізе "Песьні беларускага народу", часта ўзорам песьні і прыводзіцца толькі песьня Смаленшчыны. У тым-жа выпадку, калі за ўзор даецца песьня з цэнтральнае Беларусі, дык у камэнтарах вельмі часта паказваецца на запісы тых самых песьняў або іхных варыянтаў у Смаленшчыне з паказаньнем літаратуры і бібліяграфічных дадзеных. Гэта гаворыць аб адзінсьцьве беларускае народнае песьні ад беларускае Горадзеншчыны да самых усходніх і паўночных абшараў Смаленшчыны. Адзін народ — адны і тыя-ж у яго і песьні.

Смаленскі і бранскі селянін на кірмашы ды ў людзі, як і ўсе беларусы, выяжджалі ў белай магерцы і шэрай сьвітцы, а за клясычны народны інструмэнт у іх так сама — беларуская дуда — скураны круглы мяшок і прыткнутая да дзіркі дудка з пераборам для пальцаў, якая грае і тады, калі ў яе пакідаюць дзьмуць.

Смаленскі беларус, як і ўсе беларускія сяляне,на працягу гісторыі застаўся абыякавым да розных рэлігійных змаганьняў і не даваў із свайго асяродзьдзя духовых фанатыкаў, палоненых якой-небудзь рэлігійнаю догмаю.

Беларус заўсёды адзначаўся рэлігійным індыфэрэнтызмам і таму не паддаўся ўплывам розных рэлігійных сэктаў, якіх так багата было ў ягонага ўсходняга суседа. Жыцьцё на воддалі ад гарадоў спрыяла захоўваньню свае нацыянальнае самабытнасьці ўва ўсім жыцьці.

Гэтую нацыянальную беларускую самабытнасьць, як пераканальна сьветчаць усе пададзеныя намі вышэй факты, нават смаленскі беларус захаваў аж дагэтуль, наўсуперак усім нягодам і перагасам лёсу, што найцяжэй з усіх беларускіх краінаў выпалі на долю Смаленшчыны. І дарма, што цяпер Смаленшчына перажывае чужое панаваньне, ніякая пякельная сіла — мы ў гэта моцна верым — ня

*Кожнаму беларускаму дому і дамку — "БЕЛАРУСКУЮ ДУМКУ"*

зьверне яе з адвечнага радзімага беларускага шляху і, ступаючы ім, і гэтая нашая дарагая пакутніца раней ці пазьней прыйдзе да таго поўнага задзіночаньня з усёй Вялікай Беларускай Бацькаўшчынай, да якога імкнецца вякамі.

І аб ёй таксама можа сказаць кажны з сьведамых сыноў гэтае Бацькаўшчыны словамі таго паэта, які калісьці з такім замілаваньнем прапушчаў вачыма "прысады а блоні" яе:

Люблю я цябе, дарагая,
І веру: ня спынішся раптам,
Праз пушчы, бярэзьнікі, гаі
Да Менску заўсёды патрапіш!

*Студзень 1943 — 1961*

***

## АДКАЗ ПАЭТУ

"Ну, скажэце, каму сяньня нашыя вершы патрэбныя? Ці набярэцца наагул чалавек дзесяць, што іх чытаюць, і чатыры - пяць, а мо й менш, што іх разумеюць?"

*(Із прыватнага ліста)*

Мне чытач не наструньвае ліру, —
Муза песьні падкажа тон, —
І у сэрцы маім нечакана
Скалыхнецца звон...

Закручуся у нейкім віры,
Бы ўтапіўшыся ў сны і тугу...
Вам знаёма гэта? Даруйце!
Ня пісаць тады не магу.

І ня дзесяць хай, не чатыры, —
Хай ніхто не захоча чытаць, —
Застануся адзін, а буду
Сам сабе і паэт, і чытач...

*Міхась Кавыль*

16 сакавіка 1963 г.

* * *

УЛАДЗІМЕР КЛІШЭВІЧ

## СЬМЕРЦЬ ЯНКІ КУПАЛЫ

Я сядзеў у сваім нумары (гатэлю), калі ў калідоры пачуліся крыкі. Я выбег у калідор і даведаўся, што з верхняга паверху ў пралёт сходаў упаў паэт Янка Купала.

Ільля Эрэнбург *Людзі, гады, жыцьцё.*

— Ну, што-ж Масква? Вось тут мая магіла.
Дачаснай сьмерці вельмі буду рад.
Сваёй пашанай ты мяне дарыла,
А ў той пашане за душой нагляд.

Я не песьняр свайго народу болей,
Закрыла сонца мне твая імгла.
Ідэю вольнасьці — Масквы няволя
У маіх творах хітра замяла.

Ды я ня раб, хоць змушана душою
Сябе ў труну нябачную лажу.
Лягчэй, чым гнуць калені прад табою,
Пераступіць апошнюю мяжу.

О, Беларусь! Мая ўжо песьня сьпета.
Я хочу разам вечна жыць з табой —
Адважна падае ў пралёт паэта,
Ляціць уніз на землю галавой.

10 траўня 1963 г.

Др. Я. СТАНКЕВІЧ

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ ДР. В. ШЧАРБАКОВА.

(Працяг з папярэдняга нумару)

“Борзда ад навапрызначаных вайводаў у забраныя паветы і ад начэльнікаў адзьдзелаў маскоўскіх войскаў, разьмешчаных у розных часьцях Беларусі, пачалі прыходзіць паведамленьні цару праз прынятыя меры барацьбы із сялянскім рухам. Менскі вайвода Арсеньнеў, прыкл., у чырвіні 1656 г. наказваў, што з тых мужыкоў і пахолікаў, каторыя “Минский уезд разоряли и помещиков своих, шляхту мучили и животы и лошади и животину грабежем имали” злоўлена 56 чалавекаў. Яны былі пасаджаны ў менскую турму, але 30-ёх із іх, падкапаўшыся, уцяклі, а 20-х было павешана.

“З гэтых паведамленьняў відаць, наколькі жорстка маскоўскія вайводы распраўляліся із сялянствам, і наколькі самы сялянскі рух быў грозны... Выпраўлялі цэлыя адзьдзелы маскоўскіх войскаў на барацьбу супроці сялянства і вылаўленьня паўстанцаў” (189 — 190).

Шчарбакоў падаець жудасны абраз нішчэньня Маскоўцамі беларускага сялянства.

“Сяляне Аршанскага павету ў ваднэй із сваіх просьбаў (цару) пісалі ў гэтым часе: “Цяпер у нас сіротаў тваіх жанкі а дзеткі ўсі бязь весьці зьгінулі, бо пабралі твае гасударовы вайсковыя людзі і разьвялі па розных палкох і да цябе, гасудару, пад Смаленск, і маемасьць, статкі ўсе ў нас, і жывёлу і збожжа пабралі, і дамкі папалілі, туляемся па лясох голыя а босыя, сядзім на пажарышчу, із сьцюжы голаду чыста зьгінулі, зруйнаваныя да апошняга, а тых сваіх жоначак а дзетак... іскаці ня сьмелі, усюдых нас б'юць“.

“Усюдых сярод сялянскае людкасьці была маса вымерлых а забітых. Шмат сялян бадзялася па лясох і хавалася ў балотах а гушчарох. Цэлыя войтаўствы сталіся сусім пустыя. Калі ў сьцязе раёнаў і захавалася яшчэ сялянскае жыхарства, то ў яго “не было ни лошадей, ни животины, а у многих... и хлеба нет, бродят по миру”. Капітан царскіх войскаў паведамляў менскаму вайводзе, што “в Минском уезде во многих местах и селах и деревнях ржи и ярового хлеба у крестьян нет”.

“А прымеж таго царскія вайводы... вымагалі ад сялян бязупыннай даставы збожжа, пошару, жывёлы й коні. Побач із гэтым адбываліся бязупынныя грабяжы сялянства...

“Асабліва ў цяжкім палажэньню апынулася сялянская людкасьць у мамэнт адступленьня маскоўскіх войскаў і наступленьня войскаў Польшчы (запраўды галоўна войскаў Беларусі — Я. С.). Маскоўскія войскі па вялізарных сьпехах і перамогах над польскім (ня толькі польскім — Я. С.) войскам, пад канец 50 гг.XVII стг. лучылі ў надзвычайна нявыгадныя ўмовы і пачалі цярпець паразу за паразаю... Яны адступаюць перад праціўнікам, здаюць места за местам і на працягу якіх-колечы двух-трох год ачышчаюць блізу ўсю тэрыторыю Літвы й Беларусі.

“Апынуўшыся ў цяжкім палажэньню, маскоўскія войскі пры сваім адступленьню не шчаджалі ўжо нічога. *За найважнейшую прычыну свае паразы* яны ўважалі ізраду ўкраінскіх казакоў і *сялянскія непарадкі,* (падчыркненьне маё — Я. С.). Дзеля таго яны пры сваім адступленьню, як азьвярэлыя, накідаюцца на сялянскую людкасьць, грамяць і паляць сёлы й царкоўныя сёлы і нішчаць на сваёй дарозе ўсё, што сустракаецца” (197—199).

Шчарбакоў, відавочна, сьведама абмінуў тут ходаньне беларускае цывільнае людкасьці з маскоўскім акупацыйным войскам 5/, галоўна сялянства, меней мяшчане і яшчэ меней шляхта, бо гэтая ў вялізарнай бальшыні была ў беларускім войску. Дыкжэ *“сялянскія нерады”,* каторыя Маскоўцы ўважалі за “найважнейшую прычыну свае паразы” і былі ходаньням беларускага сялянства з маскоўскім войскам, партызанскай вайною беларускіх сялян із маскоўскімі акупантамі. Як перад гэтай вайною, так і ў вайну былі некаторыя выступленьні сялян супроці сваіх паноў, але супроцьпанскі рух сялянскі ня быў такі вялікі, як гэта хоча паказаць аўтар, залічыўшы да яго і партызанскі рух супроцьмаскоўскі. Супроцьпанскія выступленьні сялян ня толькі не маглі быць найважнейшаю прычынаю паразы маскоўскага войска, але

прычынаю паразы маскоўскага войска, але й не маглі быць гэтае паразы ніякаю прычынаю.

Цікавыя дачыненьні ў гэтую вайну былі памеж беларускай люднасьцю і ўкраінскімі казакамі, каторыя ў хаўрусе з Маскоўцамі займалі беларускія землі.

“...Памеж украінскімі казакамі на чале зь Іванам Залатарэнкам і казацкім беларускім палком на чале з Паклонскім пачаліся супарства і барацьба. Паклонскі зь мясцовай шляхтаю імкнуўся да монапольнага дзяржаньня тэрыторыі б. Магілеўскай губ. Ён уставічна жалуе цару на ўкраінскіх казакоў, на іх наезды ў межы тае тэрыторыі, што была адведзена беларускаму казацкаму палку (Магілеўскі павет, раён Прапойска, Чавус). Ён выстаўляе ўкраінскіх казакоў грабежнікамі, выдумляе ўсялякія ўдаваньні на Залатарэнку, празь ягоныя задумы і зрады маскоўскаму цару і г. д. Сваім парадкам Залатарэнка, наказны гатман украінскага казацтва на тэрыторыі Беларусі, удаваў Паклонскага, вінавацячы яго ў зьбіцьцю ўкраінскіх казакоў, у нежаданьню пасылаць свой полк на фронт, у гатаванай ізрадзе” (193) . Гэта праз дачыненьні паміж вайсковымі арганізацыямі двух народаў.

А вось якія былі дачыненьні памеж украінскімі казакамі і беларускім сялянствам. ”Украінскія казацкія вярхі былі не ад таго, каб даўжэйшы час заігравацьізь /беларускім/ сялянствам, стараючыся выкарыстаць яго ў вайне... Гэтым жа належа зьясьніць і вельмі асьцярожныя дачыненьні ўкраінскіх вярхоў да беларускага сялянства. Але як бы не заігравалі вярхі ўкраінскага казацтва зь мясцовым сялянствам... гэтыя вярхі не маглі ўзьдзержыцца ад грабяжоў гэтых масаў, ад прыдбаньня ў раёне свайго быцьця новых земляў і ад эксплёатацыі сялянства. Гэтыя дзеяньні вярхоў украінскага казацтва пачалі асабліва рэзка выяўляцца просьле таго, як Паклонскі мусіў ізрадзіць, у пач. 1655 г., маскоўскаму цару і з часьцяй сваіх войскаў перайсьці на бок Польшчы (запраўды Беларусі — Я. С.)... Ён (Залатарэнка) пачынае весьці адкрытую барацьбу супроці /беларускага/ сялянства. А гэтая акалічнасьць не магла адбіцца на настрою апошняга. Сялянства пакідае казацкія часьці і ўсё часьцей уступае ў барацьбу з украінскімі казакамі.

”Усё гэта прыводзе да таго, што сілы ўкраінскіх казакоў у Беларусі слабеюць, колькасьць казакоў у Залатарэнкавых часьцёх менее, а просьле таго, як Залатарэнку забілі пад Старым Быхавам, ягоныя часьці сусім распаўзаюцца“ (193-195).

Як бачым, што да Украінцаў, то Шчарбакоў не пабаяўся сказаць, што беларускае сялянства ваявала зь імі, дарма што ”украінскія казацкія вярхі“ ”асьцярожна“ да яго ставіліся; дык і пагатове мусіла беларускае сялянства ваяваць із Маскоўцамі, каторыя ня ставіліся да яго ”асьцярожна“.

(Далей будзе)

* * *

АЛЕСЬ ЗМАГАР

## *П А П У Г А Й*

*(байка)*

Аднойчы ўлетку Папугай
Нек заблудзіў да нас у гай,
Прысеў на дрэва, лыпае вачыма,
Цярэбіць пер’е, пышыць галаву,
А ў гэты час Варона у лагчыне
Адшуквала ў гнаі чарву.

— Здароў, браток! — Закаркала Варона. —
Заходзь да нашага брудастага раёну!
За ею ўсьлед не разьбяры-бяры
Засакатала й вёрткая Сарока.
(Былі яны з дыплёмам школы ”Плеткары“,
Навокал знанае шырока).

А потым шчэ якаясь Хітрун-Птушка
Штось Папугаю цвыркнула на вушка.
Ён слухаў увесь дзень ад ранку,
Завучваў словы, проста дзіва,
І паўтараў без перастанку,
Не разумеючы брахлівасьць.

— Ты з глузду зьедзеш ад такой лухты, —
Яму зашасталі Лісты.
Лістоў ня слухаў Папугай;
Надумаўся ён стаць Сініцай
І ну лятаць із Краю ў Край,
Разносіць нябыліцы.

Сябры! Калі пачуеце пляткарства
зь якой-бы ні было Званіцы,
Успомніце, як Папугай
надумаў стаць Сініцай.

1962 г.

К. ЮХНЕВІЧ

# Рыньва жыцьцёвая

На пералуч Немцаў Лёпшу паслалі не адразу. Пасьля таго, як ён напаткаўся, уцёкшы ад іх, зь невялікім аддзелам узброеных сялян, што перасяліліся жыць у часе вайны ў нетрах пушчы й балот, яму, як знаёмаму яшчэ перад пачаткам вайны — магазыншчыку з гарэлачнай лаўкі, далі месца пасяліцца ў зямлянцы з Пагоцкім, чалавекам безь сям'і — дзяцюком. А цяглістай жанчыне, блізу жаўнерскай постаці, вайсковая рада наказала выдаваць Лёпшу больш есьці.

Сам Пагоцкі, пакуль хадзіў уночы ваяваць зь Немцамі, адбіраць у іх соль, хлеб і патроны, пакідаў яму накрыцца сьвітку або кажух, каб сьцюдзёнай раніцай было цёпла спаць у вогкай зямлянцы.

Аднойчы, вярнуўшыся цэлым, навет не параненым, Пагоцкі сказаў свайму новаму сябру й быццам-бы гаспадніку ў ягонай зямлянцы пад двумя вялікімі дубамі:

— На тваім месцы калісьці мой равесьнік спаў. О, які адважны быў: ён мог на лёце гранаты хапаць і кідаць назад на Немцаў! Мог сам адзінотна хадзіць зь імі на нажы хадацца... Ужо паўгода як забілі яго.

Лёпша зацеміў Пагоцкаму:

— Цю, як страшна!

На трэйці дзень да Лёпшы прыйшоў фэльшар. Ён аглядзеў ягоныя ногі, пастукаў у грудзі, паслухаў сэрца, і сказаў:

— Нэрвы, а так здаровыя косьці. Да канца тыдня можаце ў лягеры быць — папраўляйцеся... Вельмі мужчыны патрэбны нам. Не стае мужчын.

Лёпша патурбаваўся пра сваё:

— А вы, доктар, паглядзеце тут — нешта пад грудзі цісьне. Я, здаецца, зусім хворы...

— Нічога — пройдзе: старасьць не на носе яшчэ, — адказаў фэльшар.

Якраз Пагоцкі вярнуўся ад "цяглістай жанчыны". Ён быў уцьвелены. У Лёпшаву бляшанку яна ня ўкінула лішняе бульбіны. Яна сказала: — Мужчына малады — абкрэпне. Няхай не сядзіць у зумлянцы, як той крот. Паветра больш, дый хады ня менш, — ня гэтакі час цяперака. Ногі ваўка сыцяць!..

І навет рукой махнула й адвярнулася. Пагоцкі паспрачаўся. Ён, разлаваны, адказаў ёй:

— Ваўчыха — ты! — І на ейных вачох пераліў сваю страву ў Лёпшаву бляшанку. Цяглістая жанчына, бы пацешаная маці, шчыра ўсьміхнулася ўсьлед Пагоцкаму.

— Пасьля прыдзеш — можа астанецца ў катле.

У зямлянцы, спаткаўшыся з фэльшарам, Пагоцкі рупліва папытаўся яго:

— Ну, як рэкрут дыхае?

— Ня блага, — пацешыў згорблены дзядок, фэльшар, дый глынуў слюну, глянуўшы на парыстую бляшанку із стравай. — А як-жа сам? Пакажы свае дзёсны.

— І я таксама добра... Вось сяньня ўжо паслухаюся вас — зараз пайду гусіную цыбулю есьці...

— Ідзі, хлопча, ідзі, бо ня жарты бяз зубоў жыць — выпадуць, калі не паслухаешся.

Пагоцкі спадцішка, жартаўліва, калі фэльшар быў у прахоне зумлянкі, прагаманіў Лёпшу:

— Ня вываляцца аж да самай сьмерці... Ты спакмеціў: ён-жа сам бяззубым ходзіць.

А назаўтрае лейтэнант загадаў Пагоцкаму навучаць Лёпшу зь пісталета і стрэльбы страляць. Лёпша сьмешна трымаўся за іхныя дзяржакі. Усё часта выходзіла ў яго: пісталет абвісаў з далоні, тырчэў уніз, як абломлены сук на дрэве. Пагоцкі сьмяяўся. Ледз-ледзь бачныя крывяныя паўкружкі паказваліся на дзёснах, над белымі зубамі — ён пачынаў хварэць скарбутам... Ён меў цярпеньне вучыць Лёпшу, і, мабыць, радаваўся з гэтага даручэньня, бо была хвала: да вайны Пагоцкі ня служыў у войску, а паглядзеце: іншых вайсковых валатугаў навучае.

За дзень перад тым як пайсьці на пералуч Немцаў, Пагоцкі павёў Лёпшу ў лясную вайсковую "акадэмію". Шмат хто зь сялянаў вярнуўся з нападу на Немцаў. Гурміліся каля

лейтэнанта — вайсковага кіраўніка, адыходзіліся ад яго, спрытліва падаючы на зямлю; прапаўзалі колькі крокаў, ускоквалі і ўзноў падыходзілі да яго — захопна апавядалі пра сваю начную прыгоду. Лейтэнант вельмі часта праціві́ўся ім, настойваў на сваім.

— Проста — удалося; а на маю руку, калі-б Немцам быў, я мог застрэліць цябе.

Некаторыя таксама працівіліся яму.

— На вайне акадэміяў не памятуюць, — казалі гэткія. Але лейтэнанта ўсё'дна слухалі.

Лёпшу пазналі сяляне. Адзін старэйшы навет пакпяліўся над ім.

— Ну, братка, гарэлачкі прывёз? Але-ж і жываток твой спаў...

— Але, але — прывёз, — вясёла адказаў Лёпша, і папытаўся: — Чаму мяне Лёпшай завуць?

Яму растлумачылі, што ўсе, хто жыве тут, у пушчы, у іхным прыстанішчы, мусіць мець выдуманае імя, каб папаўшыся ў нямецкі палон, ня ведалі хто ты, і не маглі памсьціцца тваім родзічам. Лёпша ня зусім паверыў, аднак над гэтым не задумоўваўся.

— Заўтра на пералуч з Пагоцкім пойдзеце— людзей не стане. Памалу прывакайце, — напошак сказаў яму лейтэнант, і прапанаваў паглядзець, як ён бядзе вучыць іншых падпаўзаць да варожых мясьцін і пазыцыяў.

Лёпша сеў пад дрэвам. Ён мала праймаўся навучаньнямі лейтэнанта. У ваччу сяляне, што навучаліся, мітусіліся ў сваіх вопратках-лахманох, як ад ветру даўгія абросьлі моху на камлёх хвояў і ёлак. Воддаль, каля кухні, нехта шчапаў дровы, ізрэдку ўскрыквалі, бегаючы, дзеці.

Ёсьць часіны толькі адных думак ды асочынаў свайго жыцьця. Яны бываюць вясёлыя, спасьцярожныя й сумныя, але заўсёды блізкія спалучыць, удыхнуць долю злучнасьці зь векавітасьцяй дабра дзеля сябе.

Лёпша штосьці раздумоўваў. Яму напаткаўся новы страх. Страх памерці, змагаючыся зь Немцамі.

А лейтэнант зрабіў гэтак, як казаў: паслаў Лёпшу разам з Пагоцкім на пералуч Немцаў каля ракі Бярозы.

За пушчай, у даляве небакраю, прарэзалася сонца, трысьцё ў блізасьці, дзе яны сядзелі захінуўшыся — на высокім беразе ў кустох лазы й алешніку, пачало ледзь-ледз бражавець. З багністых мясьцін уздымаліся папялёсы туману. Роўнядзь лугу, што сьцяжыла ад ракі ажно пад самыя гоні ніваў па адхоністым узвышшы, зажаўрэла зіхаценьнямі нягустой расы. Далязор, злучаны ўначы, дзяліў суцэл свайго вобліку.

Сонца ўзьнялося вышэй. Сьпевы птушак і цырканьне казурак аціхала — будзе душна. Над ракой густа снуюцца мошкі, лятучыя мурашкі. Іхныя крылцы мігацеюць шклянымі, вадзяністымі кроплямі. Белахвосьцікі рэзьліва ня крычаць — яны наўмець шмыгаюць за лукаў ракі, нізка ляцяць над ейнымі хвалямі. Статак дзікіх качак шуглівай лятою апусьціўся на круглае ўзрэчча і ўскалыхнуў ціхаць затону срабрыстымі барознамі ды пырскамі. Некаторыя зь іх, асеўшы на ваду, махалі крыламі, уторыста нікалі пярэстымі шыямі і ўсё пазірней падплывалі да засені трысьця і чароту. Ад іхнага плыву аксамітна-белыя і жоўтыя пялёсткі рачных лялеяў калыхаліся.

— Усё-ткі добра быць і казуркай! — Уражліва загаманіў Пагоцкі і паказаў кіўком галавы на ўзрэчча. — Вось сабе гагочуць і жывуць... Калісьці за сэзон па семдзесят качак настрэльваў я.

— Нас пачуюць — будзь цішэй, — адклікнуўся Лёпша з куста. Яго адтуль ня было відна.

— Што ты? — Мацней загаварыў Пагоцкі й кінуў сухую галіну на качак. Яны з крыкам узьняліся, зноў узворваючы спакойны вір срабрыстымі барознамі.

— Пачуюць там... пачуюць... — Насташожліва, шчыльней прыпаўшы да зямлі, нашэптам упрошваў Лёпша з густога куста.

Пагоцкі не адказаў яму. Пайшоў да ўзьбярэжжа ракі й адтуль доўга ўзіраўся ў чыстую сонечную даляву лугу. Ён навет пасьпеўваў там, ад чаго Лёпшу ў захіне куста рабілася яшчэ больш пужліва.

Лёпшу не сьвядомілася сваё становішча. Перапалох з часоў, калі ён быў у нямецкіх загонах, і інстынкт, які рынуў яго ўцякаць у пушчу, каб выратаваць жыцьцё, поўнілі сэрца толькі палахлівасьцяй. Яму жадалася жыць, але гэтае жаданьне ажывала цяперака ў ім пакутай: мабыць перашкаджала незнаёмае й заўсёды неспадзяванае жыцьцё. Няўцешна

апынацца ў сьвеце, пра які толькі ўяўляеш! Яму здавалася, Немцы цікуюць яго ўсюды, яны зловяць і зробяць сьмерць страшнейшай, чымсьці яна ёсьць і была.

Ён вольны, аднак адчуваць часіны свабоды ў цяжкіх, ледзь зносных умовінах, ці вартыя яе? Яна-ж бы катаваньне яму. Ні шарахніся ў пушчы, ні крыкні за крыўды, што сярод аднолькава няшчасных таксама жывуць і мацнеюць. Згоджвайся з голадам і холадам, бо так прагне свабода.

Нарэшце Лёшка падняў галаву, глянуў праз процьвіні галін куста на лугавую ўсьцяж, падобную стуль на вялікую жменю травы. Абдзыганае камарамі аблічча гарэла й чырванелася плямамі. Прыслухаўся. Ні сьпеву, ні шасьценьня крокаў Пагоцкага ня чуваць. — Дзе ты?! — блізу ня ўскрыкнуў ён. Яго ўцяў жах. Рупілася ўцякаць, але куды? Уцямілася запраўднасьць, якая патрабавала можа ўсялякую ахвярнасьць. І гэтая маленькая часіна пачуцьця роспачы, бадай што вызваліла Лёшку ад цярпеньняў, што перашкаджалі разумець станьву новага жыцьця пад схонам лясоў і балотаў.

Пагоцкі нікуды не ўцякаў ад яго і ня гнусіўся над ім. Ён звычайна прымоўк там — неспакметная прага пабыць самому ў незнароку сваіх думак і адчуваньняў.

— І дзень-жа сяньня! Пакупацца ня шкодзіла-б. Хадзем на сонца — у кустох камары загрызуць.

Лёшка ажно вар'яцеў ад няўціху Пагоцкага. Ён навет чуўся нагатаваным рынуцца на яго, на чалавека, што быў у тым самам ліху, у залапленай сьвітцы, у караткаватых зь дзюрамі нагавіцах, скуль выторкваліся чорныя ад твані й багны галені, як у вываратнях карэньня.

Лёшка сеў пад дрэва. Хацелася есьці. Другі тыдзень як ён на свабодзе, але яму сьцяжыла, што гэтыя дні ўжо даўна пачаліся. Яны завялі яго ў большыя пакуты, яны вядуць няведама куды. Быццам ён памыліўся, што ўцёк сюды, дзе ўровень табе ўздымаецца трава; дзе пад нагамі зыбаецца дрыгва й людзі на ёй, як чаўны, атоньваюць у іржавым, імшыстым моры. Паветра ў барох і пушчы водырыць суталкай пахаў, ад чаго хочацца гутарыць з дрэвамі, мітусіцца сярод іхных ствалоў бясьпечным дзіцём, і кажную рэч называць раўнёй жыцьця.

— Я пра тую дзяўчыну ня скончыў. Ты-ж ведаеш яе, яна потым у мястэчку краўчыхай служыла, — загаманіў Пагоцкі ўзноў, і прысеў каля Лёшы. Голыя калені вытаркнуліся з нагавіцаў, як у саранчы ці ў лугавога коніка.

Пагоцкі знайходзіў жыцьцё.

— ... я прыйшоў да яе. Яна ўсё мерала пальто. Бедныя былі. Маці пахварбавала старэнькую сьвітку і шыла зь яе ніто палітко, ніто ў чорнай хварбе бравэрку. Яна-ж дзяўчына маладая, аздобу час каб ведаць — клопат мела: як апранула тую сярмягу, дык адно крысо як трэба зьвісае, другое-ж, як хто яго падпёк, бы той скурат нявымачаны наровіць завярнуцца й тырчэць перад каленамі, вось так, разумееш, як той капусны ліст ад качана... Я парадзіў ейным бацьком, каб простым крысо было: прышыйце да яго, ад зналіцы, стары замок. Яны паслухаліся мяне й выглядала ляпей...

— Хоць-бы цішэй, хоць-бы крыху, — бы ўбожыну ад скнарыстага багача папрасіў Лёшка Пагоцкага.

— Чаму? Я-ж гутару нармальна. Вунь дзеці не палохаюцца. Паглядзі, як ганяюцца за дзікім казьлянём, устань паглядзі... Ужо два гады, як наша вёска ў пушчу перасялілася. Зь Немцамі-ж ня жыць. І яны ня рушацца на нас — ведаюць, што борам стаім за сябе.

Лёшка паслухаўся Пагоцкага. Узіраючыся, прыплюснуў вочы: казьлянё ўсё-ткі злавілі дзеці. У воддалі чуліся іхныя глухаватыя скрыкі радасьці.

Пагоцкі ня хоча быць адным побач іншых, ён працягвае сваё апавяданьне. Садзіцца ізноў пад дрэва, а Лёшка адыходзіць некаторае пройсьце ад яго, захінаецца ў другім кусьце. Чуваць як ён уторліва хлопае па абліччы, адганяючы камароў.

— ... мне-ж рупілася й падзадацца перад хлопцамі — цыгару купіў. Пакуру, пакуру — патушу, дый з пачатку... І бывае на сьвеце надара: трасца прыпаленай я нек тарканў ёй у вока, не ў самае праўда, а з боку крыху... з бельмуком асталася; і жаніцца, дзе, уся мая радня прасіла дараваць мне — нізавойшта, а кахаліся йшчэ... Яна таксама тутака-а...

Апавяданьня пра нешчаснае каханьне, што напэўна суцешыла смутак ягоны, забірала з душы моўкнасьць непазнанае пяшчоты, што можа ўяўляла дарагую, будучую спадзеву,

Пагоцкі не даканчыў. З-заду яго пачуўся трэск сухіх лазовых суччаў. З кустоў выйшаў мужчына з аўтаматам перавешаны на шыю, і гэтак сама як Пагоцкі, апрануты ў вельмі зношаную вопратку.

— Хто ідзе? — бяз неякай асьцярогі сябе, адклікнуў Пагоцкі. Ён з далёку пазнаў свайго вайсковага кіраўніка, калі той праз кусты з пушчы прастаў сюды.

— Хто ідзе? Хто ідзе? — падражніў кіраўнік Пагоцкага. А тады зьвярнуўся зусім сурова. — А дзе другі?... Здраднікі вы! Здраднікі! Вас мала растраляць, вас трэба за неба падвесіць! Чаму ня выстрылілі зялёную ракету?

— Яшчэ ня час, лейтэнант — сьцень ад пушчы на раку ня лёг,—адказаў вясёла Пагоцкі, і дадаў, усьмяхаючыся: — А Лёпшу пашукай...

— А дзе-ж ён?

— Ня крычы на яго — прызвычаіцца.

Некаторую часіну там была ціхаць. І ў тэй прокмеці ціхаці Лёпша апамятаўся — ён справіўся спакмеціць з куста, што сюды завітаў усяго толькі йхны кіраўнік. Лёпшу ахінуў вялікі неспакой, дзівоснае жаданьне моцы: абараніць сябе, свой гонар, сваё пачуцьцё волі. Ён ірвануўся з куста. Вочы выказвалі мужайнасьць: яны бачылі тое, з чым не пагоджваліся ягоныя хваляваньні, з тым, які ўвесь час, пакуль прыйшоў кіраўнік, турбаваў і неспакоіў яго. Надыйшла часіна, якой ня можна ўхіліцца. Лёпша апынуўся каля Пагоцкага. Лёпша ўмеў страляць. Ён некалькі разоў стрэліў у грудзі Пагоцкаму.

— Зра-днік! Зрад-нік! Ён здраднік! Ён! — скрыкваў Лёпша, страляючы. Пагоцкі асунуўся на зямлю. Ад апошняй зямной болі, рэдкая ўсьмешка адыходу, бы прабачлівасьць за незнарок патурбаваць чалавека, скалынула ягоныя вусны.

— Ён здраднік! Ён! ні я-я! — торыў Лёпша сваё. — Мне страшна было зь ім!...

На Лёпшавым абліччу больш абурэньня чымсьці ўразьлівасьці ад недаўніх непрыемнасьцяў з Пагоцкім. Усё пазіраючы на лейтэнанта, ён навет, неяк задавольліва нахмурыў вочы, што мабыць унімалася: лейтэнант мусіць астацца яму ўдзячлівы; здавалася ён памог усьцерагчыся лейтэнанту лішніх клопатаў у штодзённай рабоце.

— Колькі патронаў асталося? — спытаўся кіраўнік у Лёпшы, стрымна і супакойна, маўляў, толькі й можна было захавацца гэтак.

— Ён здраднік. Ён моцна гутарыў, а на пазыцыі вайной ня можна гутарыць...

Лёпша даў пісталет. А тады лейтэнант падыйшоў да Пагоцкага, і, як маці заснуўшаму дзіцяці, палажыў ляпей падверненую галаву, забраў ад яго стрэльбу і ракетніцу.

Штосьці лейтэнант нічога больш ні кажа і не пытаецца. Лёпша пазіраў і моўкнуў.

— Пад вываратнямі пушчы ня месца табе. Ідзі куды хочаш! — сказаў яму лейтэнант, і ў голасе ягоным цяперака чулася хваляваньне. Ён нешта больш жадаў сказаць, але вусны скрывіліся, абмярцьвелі, шчокі скалынуліся сухавейнай белявасьцяй; крутануўся ад Лёпшы; быццам давіць зьбіраўся, клешняй вытарапіў зналусна пальцы левай рукі, гэтак выпарскнутыя сьлёзіны абцёр, і пайшоў назад, у нетры пушчы, пакідаючы Лёпшу із няжывым Пагоцкім.

———o———

*Ю. ЖЫВІЦА*

# Кветкі на сьвежай магіле

Раніцай, па сьнеданьні, глянуў Якуб на каляндар і спахапіўся: Сёньня Усіх Сьвятых — 1 лістапада, трэба схадзіць на магілкі. Ён стаў перад люстрам, прычасаўся, накінуў плашч, вышаў з пакою і замкнуў за сабою дзьверы. Жоўтая восень дыхнула ў твар халаднаватым паветрам. З хвіліну пастаяўшы, нешта абдумваючы, Якуб павярнуў направа і пайшоў уздоўж вуліцы ў бок магілак.

Каля брамы магілак дзяўчына прадавала кветкі.

— Трэба купіць пару штук, бо ня выпадае ў сёньняшні дзень ісьці бяз кветак, — пранеслася ў думках Якуба, — пакладу хоць на няведамай магілцы няшчаснага ”дэпіста“. Хай ня сьвеціць пусткай яна ў сёньняшні дзень.

Якуб падышоў да дзяўчыны, папрасіў маленькую, але прыгожую вязанку кветак, заплаціў і пайшоў на могілкі.

За брамай таўпілася ўжо шмат народу. Ад-

ны ўваходзілі, другія выходзілі з жалем на сэрцы, сумам і сьлязьмі ў вачох. Прапхнуўся Якуб між людзьмі і затрымаўся, ня ведаючы, куды ісьці, які ўзяць кірунак: ва ўсе бакі разыходзіліся дарожкі.

— Ідз сюды! — Нешта падказала Якубу, і ён павярнуў управа, туды, дзе магільнік быў болей зарослы. Ішоў паволі, прыглядаўся да помнікаў, часам затрымоўваўся і чытаў надпісы ды ізноў ішоў. Разнаякасьць помнікаў і прыбраньня магілак трывожыла яго. Адно, што яму падабалася, гэта парадак нямецкага магільніку, чысьціня. Розныя думкі прыходзілі ў галаву, і нават ня вытрымаў і сказаў, ці то сам да сябе, ці мо да духаў: ”Не, аднак лепш памерці на сваёй зямельцы ды пад роднай бярозкай ляжаці, як тут на чужой зямлі, сярод невядомых, сярод чужых і халодных помнікаў“. Але ніхто яго ня чуў. А калі-б і пачуў нейкі чужынец, дык усё роўна ня могбы адказаць, бо магілы не прамаўляюць. Але, вось, нечакана кінулася ў вочы сьвежая магілка. Адзінокая, пры дарожцы, пад кустом. На ёй ня было ані адной кветачкі. Якуба нехта быццам пацягнуў за руку і сказаў: — Пакладзі кветкі на сьвежую магілку! І Якуб паклаў вязаначку чырвона-белых кветак пад крыжам, пастаяў у задуме і паглядзеў на крыж. На дошчацы чарнелі, нязграбна выведзеныя гатыцкія літары. Якуб ня хутка ў іх разабраўся. Выходзіла ні то ”Шук“, ні то ”Жук“. Прачытаў некалькі разоў і прыпомніў, што ў нямецкай мове *”С“* і *”Г“* чытаюцца, як *”Ж“*. — Значыцца, Жук... Барбара Жук...

Якубу кальнула ў сэрца. ”Няўжо і сярод немцаў ёсьць прозьвішча Жук?“ — А тут вочы спыняюцца: ”Аўз Мінск...“ А ніжэй: 25. 4. 1932 — 24. 10 1956...“

— Сястра!?.. Барбарка дарагая!.. Няўжо?!..

Ногі падкасіліся, Якуб Жук упаў на калені і заплакаў. Міма праходзілі людзі, супыняліся ды, паспачуваўшы ў думках Якубу, ішлі ў сваім кірунку, а ён плакаў, абдымаў чужую зямлю, у якой спачывала яго сястра. Выплакаўшыся, ён памаліўся, паправіў магілку і яшчэ доўга стаяў, углядаўся то на крыж, то на жоўты курганчык; і толькі тады, калі яго пачуцьці ад болю і гора абмёрлі, пайшоў назад у горад, дамоў. Яго цяпер нішто ня цікавіла, толькі адно — даведацца, скуль і як яна сюды трапіла?

— А мо й не яна? — Прыходзіла яму ў галаву. — Менск ня вёска, там можа быць не адна Барбара Жук. Розныя думкі лезьлі ў галаву, не давалі яму супакою. Цэлую ноч ня мог заснуць. Толькі пад раніцу, змучаны да таго, што ўспаміны пра сястру і родны Менск зацягнуліся шэрай паволокай, крыху зьвёў вочы. Абудзіўся з цяжкай галавой, успомніў учарашняе і прышоў да думкі: ”Трэба пайсьці ў больніцу і даведацца. Напэўне, яна была ў доктара, лячылася, а мо нат ляжала ў бальніцы“. І ад гэтай думкі ён не адстаў. Па сьнеданьні пайшоў. Расказаў у бюро пра выпадак на могілках і папрасіў інфармацыі пра Барбару Жук.

— Была ў нас такая. — Адказала сакратарка. — Яе прывезла нашая ахова мяжы раненую... Пару тыдняў таму... — ”Уцякла з ”раю“, — Падумаў Якуб, а да сакратаркі: ”А ці я магу пагутарыць з кімсь, хто пры ёй быў, як яна ляжала тут хворай?“

— Момэнт, біттэ! — Перапрасіла сакратарка і ўзяла тэлефонную трубку. Пагутарыла з ”швэстэр“ Матыльдай і парадзіла Якубу: ”Ідзеце на другі паверх. Там ёсьць сястра Матыльдэ. Яна дагладала Барбару Жук. Яна вам болей раскажа. Я-ж, апроч фармальнага, нічога ня ведаю. Яе пахавалі за кошт гораду“.

Якуб падзякаваў сакратарцы і пайшоў на другі паверх шукаць сястру Матыльдэ. Сэрца яго моцна білася, бо цяпер ён ня меў ніякага сумліву, што яна, Барбара, — яго родная сястра. Жук падняўся па сходах і спаткаў сястру, якая на яго чакала на карыдоры.

— Выбачце. Я хацеў-бы пабачыць сястру Матыльдэ, — зьвярнуўся ён да незнаёмай.

— Я і ёсьць сястра Матыльдэ, — сказала і падала яму руку. — Вы хочаце даведацца пра ”фройляйн“ Жук Барбару, якая была тут у нас і памерла?

— Так. Ці вы не маглі-б мне нешта расказаць пра яе? Барбара мая родная сястра, і я хацеў-бы...

— Ах, ды вы яе брат, значыцца? Дык зайдзеце ў гасьцінны пакой, калі ласка, — і паказала рукой на суседнія дзьверы.

У сьветлым невялічкім пакоі было ціха і чыста. Сястра Матыльда гэтак-жа ветліва папрасіла Жука сесьці. Ён прысеў на крэсьле, а супроць яго паволі прысела сястра. Жук нецярпліва чакаў, што скажа яму Матыльдэ.

— Скуль вы даведаліся, што яна, Барбара, была тут? — Пацікавілася сястра.

Жук расказаў ёй, як ён знайшоў сьвежую магілку, як паклаў на ёй вязанку кветак, пра надпіс на крыжы, як дайшоў да думкі зайсьці ў больніцу і папытацца...

— Прыкрая гісторыя, — сказала Матыльдэ, як выслухала ўсё, — але цікавая. Я раскажу вам усё, што мне ведама.

— Калі ласка, будзьце добры. — папрасіў ён яшчэ раз.

— Вашую сястру прывезла нашая ахова мяжы. Барбара была параненая. Мела некалькі ранаў. Былі прастрэленыя ногі, грудзі. Яна страціла шмат крыві. Наш доктар стараўся, як мог, ўратаваць ёй жыцьцё, але...

Жук слухаў і дрыжэў ад узварушэньня, паглядаў на манашку.

— Яна, даражэнькая сястрыца, была так блізка ля мяне, а я і ня ведаў...

— Барбара гутарыла вельмі мала, — пачуў Жук словы Матыльдэ. — Разумела па-нямецку даволі добра, як на чужынца. Яна прызналася мне, што пераходзіла мяжу нелегальна.

— Уцякала ад маскалёў...

— Не, не магу сказаць. Па яе гутарцы было бачна, што яна ішла з іншай мэтай.

Жук пры апошніх словах манашкі настаражыўся. Матыльдэ кашлянула ў кулак, папрасіла прабачэньня і правяла рукой па напалову завязаным белай хусьцінкай лобе.

— Нездаровіцца, — прамовіла яна і ізноў кашлянула.

— Дык, можа, я вас ня буду трывожыць?...

— Нічога, нічога, — ажывілася манашка. — Я прастудзіліся крышку. Гэта нічога. Я дакончу апавяданьне.

Жук падзякаваў ізноў і схіліў голаў у чаканьні.

— Я пры ёй найболей была, і яна мне верыла. Аднаго разу яна папрасіла мяне, каб я дапамагла ёй распароць жакет. Я не адмовілася. Барбара выняла з жакета маленькую паперку, а пасьля папрасіла даць сярнічкі. Я прынесла. Мяне цікавіла, што яна будзе рабіць. Гляджу, а яна бярэ тую паперку ды паліць. Я хацела было ёй ня даць, але агледзелася за позна, паперка гарэла ў яе руках.

— Чаму, на што гэта робіце? — Запытала я, а яна мне кажа: "Я прыйшла сюды па заданьню аднэй падпольнай арганізацыі, што дзеіць у Беларусі. У паперцы гэтай былі цікавыя для некага весткі аб нашых сілах і нашых патрэбах. Я ведаю, што хутка памру, а таму і паперка гэная мусіць памерці. Ня крыўдуйце на мяне, сястра. Я толькі роднаму свайму брату магла-б перадаць яе. Такі загад, даруйце мне!.." І яна глядзела на чорны попел, што варушыўся на падлозе і плакала, разам з ёю плакала і я.Мне шкода было яе ня ведаю сама чаму. Яна для мяне была чужая ды і ня першая, можна сказаць, жывая нябожчыца, якую я даглядала і праводзіла ў апошнюю дарогу. "Ня было каго іншага паслаць на такую небясьпечную работу?" — Вырвалася ў мяне.

— Чаму-ж? Былі і другія, але я згаласілася дабраахвотна. Жанчыне лягчэй гэта зрабіць. Ды мне заўсёды ўсё ўдавалася. Думала, удасцца і гэты раз. Аж не... Сваёй ахвярнасьцю хацелася прынесьці болей карысьці нашай справе, хацелася пабачыцца з братам, — значыцца, з вамі. Якуб ня вытрымаў, заплакаў. Манашка пачакала, пакуль ён супакоіцца, і апавядала далей:

— Я малілася Богу за яе выздараўленьне, але, бачна, воля Божая прысудзіла інакш. Я з вялікай пашанай адносілася да яе. Была яна інтэлегэнтнай асобай. Прыемна было з ёю пагаварыць, каля яе пасядзець. Яна ўзгадавалася ў саветах, але была так набожна, што я аж дзівілася, — як магла захавацца гэтак вялікая хрысьціянская мараль у яе, у падсавецкай дзяўчыны? Я асабіста паклапацілася, каб ёй паставілі крыж выпісалі на ім, адкуль яна родам. Учора я думала адведаць яе магілу, занесьці кветак, але прыхварэла і зараз ня ведаю, як цяпер выглядае яе магілка. Кветкі, бадай пасохлі... Мы пялі ёй песьні на разьвітаньне з гэтым сьветам. Хай будзе ёй лёгкай нашая зямелька!

— Бог не бяз міласьці, а сьвет не бяз добрых людзей, — сказаў Якуб, калі змоўкла сястра Матыльдэ.

— Мы ўсе дзеці аднаго Бога, — адказала сястра.

Шчыра, ад збалелае душы і сэрца падзякаваў Якуб Жук сястры Матыльдэ за яе ветлівасьць, за яе спачуваньне, разьвітаўся ды пайшоў яшчэ раз адведаць магілку сястры.

Аб гэтым здарэньні паведаміў ён сяброў. І ужо ў хуткім часе на магіле Барбары Жук ляжаў вялікі вянок жывых кветак з нашай нацыянальнай бел-чырвона-белай істужкай і надпісам на ёй:

"Дарагой сяброўцы. Ты жыцьцё аддала, каб жыла Беларусь".

# СЬВ. ПАМ. ЛІДЗІЯ ДАНІЛОВІЧ

Раніцаю 7 лютага 1963 г., пасьля доўгай і цяжкай хваробы, разьвіталася з гэтым сьветам беларуская мастачка Лідзія Даніловіч.

Лідзія Даніловіч (па першаму мужу Каліноўская), дачка Ігната Якусевіча, нарадзілася 29 травеня 1910 г. ў Варшаве (Польшча). Сваё дзяцінства і юнацтва яна правяла ў былой заходняй Беларусі. Будучы дачкою кіраўніка княжых маёнткаў, наша мастачка мела магчымасьць атрымаць сярэднюю адукацыю (скончыла гімназію), а таксама, жывучы сярод маёнткавых парабкоў-беларусаў, — нацыянальна сябе ўсьведаміць, палюбіць свой народ і не забыцца свае роднае мовы.

Мастацкія здольнасьці сьв. пам. Лідзіі Даніловіч выяўляюцца яшчэ ў дзіцячыя гады, разьвіваюцца ў гады вучобы ў гімназіі ды паглыбляюцца вучобаю ў Варшаўскай Мастацкай Акадэміі.

У 1929 г. наша мастачка выходзіць замуж за кандыдата на сьвятара Антона Каліноўскага. Жыцьцё сярод праваслаўных беларусаў, а таксама ўплыў мужа, а. Антонія, шчырага беларускага патрыёта, паглыбляюць нацыянальную сьведамасьць мастачкі.

Другая ўсясьветная вайна захоплівае нашу мастачку ў в. Валеўка (Наваградчына). Тутжа ў 1942 г. бальшавіцкія партызаны забіваюць мужа нашай мастачкі а. Антонія Каліноўскага за ягоную беларуска-нацыяналістычную дзейнасьць. Ратуючыся ад помсты партызанаў, матушка-ўдава Каліноўская з трымя малымі дзецьмі (дочкамі 10 і 9 гадоў і аднагадовым сынам) пераязджае ў Горадню (Гродна) да бацькі. Адсюль, разам з іншымі ўцекачамі ад бальшавіцкай навалы, яна з дзецьмі эмігруе ў Нямеччыну. Да капітуляцыі Нямеччыны працуе ў баўэра.

Пасьля капітуляцыі Нямеччыны, наша мастачка трапляе ў лягер ДП ў Рэґэнсбурґу. Тут яна ўліваецца ў грамадзкае жыцьцё беларускае групы, піша для беларускае праваслаўнае царквы сьв. Ефрасіньні Полацкае ў Рэґэнсбурґу запрэстольную ікону "Маленьне аб чашы".

У Рэґэнсбурґу наша мастачка знаёміцца з А. Даніловічам (паэтам Янкам Золакам) і ў 1946 г. выходзіць за яго замуж.

Жыцьцё ў лягерох ДП, частыя пераезды з лягеру ў лягер (Рэґэнсбурґ, Віндзішбэрґэр дорф, Міхэльсдорф, Бакнанґ, Людвіґсбурґ), абавязкі гаспадыні і маці ня вельмі спрыяюць разгортваньню творчасьці мастачкі. Але, ня гледзячы ні на што, яна ня спыняе свае творчасьці і ў лягеры Бакнанґ наладжвае выстаўку сваіх мастацкіх працаў.

У 1951 г. нашай мастачцы ўдалося нарэшце выэміграваць з сям'ёю на сталае жыцьцё ў ЗША, дзе яна, акрамя штодзённых клопатаў па гаспадарцы і заработкавае працы ў фабрыках, знаходзіць час і для творчае працы.

Апошнія два гады свайго жыцьця мастачка Лідзія Даніловіч рыхтавала выстаўку сваіх мастацкаx працаў, але цяжкая хвароба і сьмерць не дазволілі ёй ажыцьцявіць сваіх намераў.*)

Пахавана сьв. пам. Лідзія Даніловіч на беларускіх могілках у Саўт Рывэры, Н. Дж.

Хай лёгкай бядзе ёй амэрыканская зямля.

**
*

*Рэдакцыя і Адміністрацыя "Беларускае Думкі" выказваюць глыбокае спагуваньне рэдактару "Б. Д." Антону Даніловігу (Янку Золаку) і яго сям'і з прыгыны перадгаснай сьмерці жонкі і маці Лідзіі Даніловіг Каліноўскай).*

*) У наступным нумары часапісу мы дамо кароткі агляд мастацкай творчасьці сьв. пам. Лідзіі Даніловіч.

**
*

І няма канца балючым думам,
Мне тугі да сьмерці не суняць.
Я хацеў-бы разьвітацца з сумам
І яго на радасьць памяняць.

Толькі радасьць ад мяне далёка,
Сябра сум — працягвае руку.
Вось таму сьпяваў я ненарокам
Песьні суму на сваім вяку.

*Ул. Клішэвіг*

5.5. 1963 г.

### *САНЭТ ЕДНАСЬЦІ*

Ці трэба нейчых мудрых слоў паўтор
Аб сіле ў еднасьці, пра воя ў полі?
Наслухаліся, ведаем даволі,
А ўсё-ж ідзём глуздом наперакор.

Вядзем за крэсла, зломанае, спор,
Крычым: "астроўшчык", "абрамольчык". "Солім",
Таму, каго й ня бачылі ніколі,
Каму — нажом па сэрцы — наш дакор.

А мы-ж усе з пад Менску, ці Вялейкі...
За што-ж ліём на брата, як із лейкі
Ды косім вочы, нібы ваўкалак?

Давайце скінем з сэрцаў злосьці маскі.
Яны у нас аж сьвецяцца ад ласкі
Нават тады, як сьцісьнецца кулак.

*Міхась Кавыль*

28 студзеня 1963 г.

# ХРОНІКА

## 45-ыя ЎГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

У нядзелю 24 сакавіка гг. ў BILTMORE HOTEL (Boowman Room) у Нью Ёрку беларуская грамадзкасьць Амэрыкі ўрачыста адсьвяткавала 45-ыя ўгодкі Дня Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Сьвяткаваньне гэтае было сапраўды ўрачыстым, як ніколі раней: вялікая заля была паўнюсенькая народу. Прычынаю гэтага было тое, што сёлетняе сьвяткаваньне Дня Незалежнасьці Беларусі было ладжанае абедзьвюма беларускімі грамадзкімі арганізацыямі ў ЗША — Беларускім Кангрэсавым Камітэтам Амэрыкі (БККА) і Беларуска - Амэрыканскім Задзіночаньнем (БАЗА), якія папярэдня дагаварыліся між сабою і выбралі для ладжаньня сьвяткаваньня Злучаны Беларуска-Амэрыканскі Сьвяткавальны Камітэт.

Урачыстую акадэмію папярэдзілі Божыя Службы, якія адбыліся раніцою ў гэты дзень у Беларускай Праваслаўнай Царкве ў Брукліне і ў Беларускай Праваслаўнай Царкве ў Саўт Рывэры.

Агульная частка акадэміі пачалася амэрыканскім і беларускім нацыянальнымі гімнамі, адсьпяванымі саўтрывэрскім царкоўным хорам. Пасьля гэтага арх. Васілі прачытаў малітву па-ангельску.

Акадэмію адкрыў сп. М. Бахар. Пасьля адчытаньня III Ўстаўное Граматы з 25 сакавіка 1918 г., якая абвяшчала Беларусь Народнаю Рэспублікай, былі зачытаны Праклямацыі аб Беларускім Дню Незалежнасьці, выданыя губэрнатарамі штатаў Нью Ёрк, Нью Джэрсі, Огайё і інш., а таксама мэрамі гарадоў Нью Ёрк і інш.

Даклады на тэму дня прачыталі: па-беларуску — сп. К. Мерляк (БАЗА), па-ангельску — сп. Р. Завістовіч (БККА)

На акадэміі прысутнічалі, як і выступалі прадстаўнікі ад міжнацыянальных і іншанацыянальных наступных арганізацыяў: Асамблея Эўрапэйскіх Народаў Паняволеных СССР, Амэрыканскі Камітэт Народаў Паняволеных у СССР, Амэрыканскія Прыхільнікі Антыбальшавіцкага Блёку Народаў, Канфэрэнцыя Амэрыканцаў з Усходня-Цэнтральнай Эўропы, Выканаўчы Камітэт Украінскай Нацыянальнай Рады, Польска-Амэрыканскі Кангрэс, Украінскі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі, Камітэт Вольнай Альбаніі, Усе-Індыйская Фэдэрацыя Нацыянальных Цэркваў, Украінскі Народны Саюз, Амэрыканская Рада Незалежнай Казакіі, Казацкі Нацыянальны Вызвольны Рух, Кроацкая Нацыянальная Рада, Грузінскі Саюз у Амэрыцы, Баўгарскі Нацыянальны Фронт, Украінскі Работніцкі Саюз, Галоўнае Казацкае Прадстаўніцтва на Эміграцыі, Казацка - Амэрыканскі Нацыянальны Саюз, Паўночна - Каўкаскае Аб'еднаньне, Украінскі Клюб Круглага Стала, Арганізацыя Абароны Лемкаўшчыны, рэдактар польскай газэты "Новы Сьвят", Саюз Украінска-Амэрыканскай Моладзі, Польскае Аб'еднаньне ў Брукліне, Украінскі Цэнтар у Пасэйку.

Акадэмія атрымала прывітальныя лісты і тэлеграмы ад шэрагу кангрэсманаў з Вашынґтону, ад іншанацыянальных арганізацыяў і ўстановаў, у тым ліку ад Гэнэральнага Консуля Незалежнай Літвы, сп. Будрыса, ад Дзеючага Консуля Незалежнай Эстоніі, сп. I. Кайва, як і ад шматлікіх беларускіх арганізацыяў з усяго вольнага сьвету.

На акадэміі пастаноўлена выслаць лісты

кангрэсманам Д. Флуду і Э. Дэрвінскаму, падтрымліваючыя патрэбу арганізацыі сталага Кангрэсавага Камітэту па справе народаў паняволеных у СССР, а так сама — дырэктару Агэнцыі Інфармацыі Дзяржаўнага Дэпартаманту Э. Мурру з просьбай аб уключэньні беларускай мовы ў праграму радыё “Голас Амэрыкі“.

Мастацкая частка сьвяткавальнае праграмы складалася з наступных нумароў: Сп-ня Ірэна Цупрык прадэклямавала верш Н. Арсеньневай “25-ты Сакавік“; сп-ня Е. Маркоўская прасьпявала “Васількі“ (словы Н. Арсеньневай, муз. К. Барысаўца), “Не забуду я“ (сл. М. Кавыля, муз. М. Куліковіча), “Вясновы кліч“ (сл Н. Арсеньневай, муз. Э. Зубковіч); паэт Янка Золак прачытаў свой верш “25-ты дзень сакавіка“; сп-чня К. Ярашэвіч прасьпявала “Вясна“ (сл. Н. Арсеньневай, муз. К. Барысаўца), “Ручаінка“ (сл. Н. Арсеньневай, муз. К. Барысаўца); “Песьня“ (сл. Н. Арсеньневай, муз. Э. Зубковіч) выканалі дуэтам Е. Маркоўская і К. Ярашэвіч; паэт Міхась Кавыль прачытаў “Дзень той прыдзе“ і інш.

Усьлед за гэтым, саўтрывэрскі хор пад кір. камп. Д. Верасава і ў муз. суправодзе праф. Э. Зубковіч прасьпяваў песьні: “Разьвівайся, сыры дубе“ (народная ў апр. Д. Верасава, солё сп-ня К. Яцэвіч), “Павей вецер дарогаю“ (народная ў аранж. К. Галкоўскага), “Поле, поле“ (сл. М. Кавыля, муз. Д. Верасава), урывак з опэры “На край сьвятла“ (муз. і лібрэта Д. Верасава паводле паэмы М. Сяднёва, солё сп. В. Цярпіцкі), “Паэма“ (муз. Фібаха, апр. для піяна Багуслаўскага, для хору — Д. Верасава, сл. М. Кавыля, солё Людм. Махнюк і Рэня Касьцюк), “Беларусь“ (сл. М. Кавыля, муз. Д. Верасава, напісана адумысна для 45-х угодкаў Акту 25 Сакавіка).

Позна ўвечары пакідалі ўдзельнікі сьвяткаваньня залю, нясучы ў сэрцах задаваленьне і надзеі на будучыню.

* * *

Амэрыканска-Беларускае Культурна-Дапамаговае Аб'еднаньне арганізавала ўдалае сьвяткаваньне 45-х Угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці БНР, якое адбылося ў нядзелю 24 сакавіка 1963 г. ў залі Амэрыканскага Легіёну. Акадэмію папярэдзіў малебен у царкве сьв. Андрэя.

На акадэміі былі прачытаныя праклямацыі Беларускага Дня Незалежнасьці, выдадзеныя губарнатарам штату Огайё, мэрам і легіслятурай гораду Кліўлянд, прывітаньні атрыманыя ад кангрэсманаў, ад беларускіх арганізацыяў Амэрыкі і заграніцы.

Даклад, прысьвечаны Акту 25-га Сакавіка зрабіў праф. Р. Астроўскі, Прэзыдэнт Беларускае Цэнтральнае Рады.

На акадэміі пастаноўлена выслаць ліст Прэзыдэнту Злучаных Штатаў Паўночнае Амэрыкі Дж. Кэнэды з просьбаю ўключыць беларускую мову ў радыёперадачы “Голасу Амэрыкі“, а так сама ліст прадстаўніком амэрыканскага ўраду з падзякай за падтрымку вызвольных імкненьняў беларускага народу.

У мастацкай частцы былі дэклямацыі: вершу Купалы “Курган“ — Міхась Яцэвіч, вершу “Нёман“ — Юрка Сацэвіч, вершу “Паўстань“ — Ларыса Мікуліч, вершу Пачобкі “Беларуская Зямліца“ — Ліда Лазар. У музычным выкананьні Юркі Лазара былі задэманстраваныя народныя танцы “Лявоніха і “Крыжачок“.

У Кліўляндзе адначасна адбылося другое сакавіковае сьвяткаваньне, ладжанае мясцовым аддзелам БАЗА.

* * *

*Лёс Анжэлес.* Сьвяткаваньне 45-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі адбылося ў Лёс Анжэлес у нядзелю 24 сакавіка і было арганізавана супольна беларусамі ўсіх грамадзкіх напрамкаў. Праграмай кіраваў Я. Арцюх, старшыня сьвяткавальнага камітэту, сябрамі якога былі Ю. Найдзюк і В. Стус. Праграма пачалася амэрыканскім гымнам і малітвай “Магутны Божа“. Былі адчытаныя прывітаньні ад мэра гораду Лёс Анжэлес, сэнатара Кікеля, БККА, БАЗА і іншых беларускіх арганізацыяў. Рэфэрат аб Акце 25 Сакавіка 1918 г. на фоне гісторыі барацьбы беларусаў за сваю дзяржаўную незалежнасьць прачытаў К. Вайцяхоўскі. З дэклямацыямі вершаў выступалі дзеці: Аня і Люся Вінніцкія, Ядзя Найдзюк ды Ірэна і Нюся Стусы. Ю. Найдзюк прачытала верш а. Я. Гэрмановіча “Сон Аўтара“. Верш Купалы “Гэй наперад“ прадэклямаваў Ч. Найдзюк. Ядзя Найдзюк пратанцавала зь лялькай польку “Янка“ пад акампаніямэнт А. Мяленцьева на акардэоне. Праграма закончылася амэрыканскім і беларускім нацыянальнымі гымнамі. У сьвяточным сямейным настроі адбыўся пачастунак для ўсіх прысутных.

*Чыкаґо.* Беларуская Нацыянальная Рада ў Чыкаґо арганізавала акадэмію, прысьвечаную 45-м угодкам праклямацыі незалежнасьці БНР. Акадэмію папярэдзіў малебен у мясцовай Беларускай Праваслаўнай Царкве.

*Бівэр Фальс.* К. Клярк, прэзыдэнт Жэнэўскага Каледжу, выдаў адумысловае асьведчаньне з падтрымкай праклямацыі дня 25 сакавіка 1963 г. за Беларускі Дзень Незалежнасьці.

* * *

Па ўсіх беларускіх сьвятынях адбыліся малебны з пропаведзямі, прысьвечанымі беларускаму дзяржаўнаму юбілею. Сакавіковыя сьвяткаваньні адбыліся ўва ўсіх іншых краінах вольнага сьвету, гдзе пражываюць беларусы, а перадусім у Канадзе, Англіі, Францыі і Аўстраліі.

*Вашынґтон.* У Кангрэсе выступалі з прамовамі сэнатары і кангрэсманы, адзначаючы 45-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі і падтрымліваючы нацыянальна-вызвольныя імкненьні беларускага народу супроць сучаснай акупацыі Беларусі Савецкай Расеяй, а паймена:

У сэнаце дня 25 сакавіка 1963 г. выступаў сэнатар М. Мансфільд з Монтаны, прапануючы зьмясьціць у Кангрэсавым Рэкордзе заяву сэнатара Ф. Ляўшэ з Огайё, што было аднагалосна прынята. Таго-ж дня выступаў сэнатар Г. Скотт з Пэнсыльваніі.

У Палаце Кангрэсу дня 25 сакавіка 1963 г. выступалі наступныя кангрэсманы: Э. Дэрвінскі з Іліной на дамаганьне кангрэсмана Гудлінґа, П. Родіно з Нью Джэрсі на дамаганьне кангрэсмана Гіля, Ч. Ельсон з Нью Джэрсі, Э. Паттэн з Нью Джэрсі, Дж. Дінгэлл з Мічыґану, А. Мультэр з Нью Йорку і Э. Даддаріо з Коннэкцікуту.

Дня 28 сакавіка 1963 г. ў Палаце Кангрэсу выступалі кангрэсманы: Р. Мічэль з Ілліной і В. Грін з Пэнсыльваніі.

У Сэнаце ў Вашынґтоне дня 1 красавіка 1963 г. перад пачаткам паседжаньня прачытаў малітву за беларускі народ беларускі праваслаўны арх. Васіль.

Задзіночаны Сьвяткавальны Камітэт з Нью Йорку робіць захады перад кангрэсманам А. Мультэрам аб выданьні адумысловага Кангрэсавага Рэкорду, прысьвечанага 45-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Трэба спадзявацца, што, як і ў мінулыя гады, кангрэсман прыхіліцца да просьбы і Рэкорд будзе апублікаваны.

9-га лютага ў гатэлі "Нью Ёркэр" у Нью Ёрку Амэрыканскія Прыхільнікі АБН зладзілі палітычны форум і банкет. У палітычным форуме прымалі ўдзел: амбасадар Нацыянальнага Кітаю ў ЗША, сталы Паўдзённа-Карэйскі Прадстаўнік пры АН, кангрэсман Фіен, былы кангрэсман Кэрстэн, старшыня АБН др. Я. Лебедзь. Удзельнікі палітычнага форуму асудзілі народазабойчую расейска-камуністычную палітыку адносна паняволеных Масквою народаў. Пасьля палітычнага форуму адбыўся банкет. Як у палітычным форуме, так і ў банкеце прымала ўдзел шматлікая беларуская дэлегацыя.

* * *

23-га лютага ў Саўт Рывэр Злучаны Беларуска-Амэрыканскі Дапамаговы Камітэт зладзіў вечарыну — Беларускія Запускі. Грала беларуская аркестра Я. Жыдовіча. Дзякуючы стараньням старшыні Аддзелу сп. А. Занковіча і маладым гаспадыням, вечар даў вялікую прыемнасьць гасьцям і арганізатарам.

* * *

16-га сакавіка ў Пасэйку адбыўся украінскі волейбольны турнір, у якім прымала ўдзел беларуская дружына "Нёман". У турніры ўзялі ўдзел 7 дружынаў, зь якіх беларуская дружына заняла трэйцяе месца.

* * *

7-га красавіка ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне адбыўся сход пайшчыкаў Беларускага Цэнтру Адпачынку "Бэл Эр Менск". Уступаючы Камітэт Набыцьця здаў справаздачу з праробленае працы, а наступна была выбрана Рада Дырэктараў у складзе 12 асобаў і Рэвізыйная Камісыя.

* * *

Беларусы! Праводзьце свой вольны час у сваім Беларускім Цэнтры Адпачынку!

## БЕЗ КАМЭНТАРАЎ

У "Новом русском слове" ад 5 красавіка 1963 г. ў артыкуле "Н. Гедда и русский национальный хор Н. П. Афонского" Андрэй Седых паміж іншага піша: "Хор выканаў дзьве рэчы кампазытара-эмігранта М. Куліковіча, — кантату "Русь", напісаную да 1100-годзьдзя існаваньня дзяржавы Расейскай і ў яго новай аранжыроўцы народную "Коробушку"...

**
*

## ІНФАРМАЦЫЯ

*Дзеля паасобных запытаньняў аб тым, як дайшло сёлета ў Нью Ёрку да агульна-беларускага сьвяткаваньня Сакавіковага Юбілею, рэдакцыя "Беларускае Думкі" зьвярнулася ў гэтай справе да Сп. Барыса Шгорса, старшыні каардынацыйнага паседжаньня па справе арганізацыі супольнага сьвяткаваньня, які паінфармаваў нас наступна:*

Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі (БККА) пастанавіў зьвярнуцца да Галоўнае Ўправы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) з прапановай аб супольным ладжаньні юбілею 25 Сакавіка. У наступстве гэтага дня 19 студзеня 1963 г. ў Нью Ёрку адбылося каардынацыйнае паседжаньне пры ўдзеле прадстаўнікоў ад абоіх арганізацыяў. Па прадыскутаваньні спрэчных прынцыповых пытаньняў, нарада прышла да наступных высноваў:

1. Неабходна арганізаваць разам агульна-беларускі Сакавіковы юбілей ў Нью Ёрку ў 1963 г. на базе беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў.

2. Пастаноўлена ўключыць у праграму інфармацыйных матар'ялаў усю гісторыю беларускага народу, уключаючы дзейнасьць з пэрыяду 2-ое сусьветнае вайны, як: 2-гі Ўсебеларускі Кангрэс, дзейнасьць Беларускае Цэнтральнае Рады, барацьбу Беларускае Краёвае Абароны і г. д.

3.Існуючыя асобныя дзяржаўныя рэпрэзантацыі і асобныя царкоўныя арганізацыі пастаноўлена трактаваць на маніфэстацыі роўнарадна, у форме не навязваючай сторанам неадпавядаючага прызнаваньня.

4. Пастаноўлена ня прыцягваць да актыўнага ўдзелу ў сьвяткаваньні непрэдрашэнцаў.

5. Для падрыхтоўкі і правядзеньня сьвяткаваньня створана Задзіночаны Беларуска-Амэрыканскі Сьвяткавальны Камітэт, які складаецца з 2-х старшыняў і 4-х сяброў, у роўнай колькасьці з кажнага боку.

Праца па падрыхтоўцы і правядзеньню юбілею была падзелена паміж БАЗА-й і БККА ў аснаўным па роўнай частцы, улічваючы магчымасьці кожнай арганізацыі і выходзячы з пасьпяховасьці маніфэстацы, як агульна-беларускага выступленьня.

*НЯМЕЧЧЫНА*

У сьнежні 1962 г. у Мюнхэне адбылося паседжаньне ЦК АБН. Гэнэральны сакратар, князь Ніко Накашыдзе зрабіў агульны агляд працы АБН за 1962 г. Спадарыня Слава Стэцько — рэдактар "АБН-Корэспондэнц" мела даклад аб выдавецкай працы АБН. Старшыня АБН, сп. Яраслаў Стэцько зрабіў агульны нарыс працы АБН на 1963 г. Падчас рачовай і жывой дыскусыі, у якой прымалі ўдзел былы міністар замежных спраў Славаччыны, праф. др. Ф. Дурчанскі, пплк. Д. Касмовіч, былы сакратар Баўгарыі др. Дмітро Вальчов, праф. др. Р. Вірэр (чэх), харвацкі, румынскі і іншыя дэлегаты ЦК АБН апрабавалі дзейнасьць Прэзыдыюму за 1962 г. і напрамак працы на 1963 г. Старшынёю паседжаньня быў пплк. Д. Касмовач.

* * *

У студзені 1963 г. канцлеру Нямецкай Бундэсрэспублікі др. Конраду Адэнаўэру споўнілася 87 гадоў жыцьця. З гэтае нагоды Дэлегатура БЦР у Нямеччыне ад імя ўсіх суродзічаў у Нямеччыне пераслала канцлеру найлепшыя пажаданьні. Старшыня Дэлегатуры атрымаў асабістую падзяку канцлера.

* * *

У Штутґарт 28 сьнежня м.г. адбылося чарговае паседжаньне згуртаваньня прадстаўнікоў ад эміграндкіх арганізацыяў у Бадэн Віртэнбэрґіі. Былі абгавораны пытаньні гаспадарчыя, сацыяльныя і праўныя, зьвязаныя з эміграндкім жыцьцём у Нямеччыне. Ад беларусаў прымаў удзел Старшыня Дэлегатуры БЦР, сп. Д. Касмовіч.

* * *

Беларусы ў Нямеччыне сьвяткавалі Дзень 25 Сакавіка ў месцах свайго пасяленьня. Яны мелі нагоду праз нямецкае радыё слухаць аб гэтым Вялікім Дні. Нямецкія газэты таксама адзначылі нацыянальнае сьвята беларусаў. Старшыня Дэлегатуры БЦР меў прэсс-інтэрвію з нямецкімі карэспандэнтамі.

* * *

Нямецкі ўрад Бундэсрэспублікі выслаў у канцы красавіка г.г. ноту пратэсту Савецкаму ўраду з прычыны подлага забойства савецкім агентам з наказу Масквы двух украінскіх палітычных антыкамуністычных дзеячоў Бандэры і Рэбэта. Судовы працэс над забойцам Сташынскім адбыўся ў 1962 г. ў Карльсруэ.

*КАНАДА*

З ініцыятывы КШ БВФ беларусы Вініпэґу адсьвяткавалі дзень Слуцкай Абароны ў сьнежні 1962 г. Падчас урачыстай Акадэміі выступалі з прамовамі: начальнік КШ БВФ, сп. Ул. Гуцько, сп. К. Навіцкі, якія насьвятлілі тагачасныя падзеі і зазначылі аб вялікай важнасьці гэтага патрыятычнага ўздыму для беларусаў.

* * *

Стараньнем Краёвага Штабу БВФ, пры актыўнай дапамозе і ўдзеле беларускай эміграцыі Дзень 25 Сакавіка быў у Вініпэґу адсьвяткаваны 23-га сакавіка. Сп. Ул. Гуцько адчыніў Сьвяточную Акадэмію і прывітаў гасьцей. Пасьля былі прачытаны прывітаньні ад прэм'ера Канады Я. Діфэнбэйкэра і беларускіх арганізацыяў. Сп. К. Навіцкі прачытаў рэфэрат на тэму дня. У мастацкай частцы прымалі ўдзел: сп.сп. М. Радчанка, Л. Карпінка, А. Радчанка, М. Сільвановіч, які дэклямаваў свае вершы, малады гарманіст М. Мотах і 4-ох гадовая Элінора Радчанка. Сьвятачную вячэру арганізавала сп-ня Феня Такушэвіч.

*АЎСТРАЛІЯ*

Грамадзкая і нацыянальная праца беларусаў, якія жывуць каля Мэльбурна, канцэнтруецца каля Нацыянальнага Камітэту. Сябры Беларускага Вызвольнага Фронту прымаюць актыўны ўдзел у працы гэтага Камітэту. Нацыянальны Камітэт ладзіць нацыянальныя сьвяткаваньні, робіць пастаноўкі, існуе хор, танцавальная група.

Н. К. ладзіў ужо выступленьне ў Аўстралійскім Клюбе, падчас якога выступаў хор і танцавальная група. На заканчэньне выступленьня быў дадзены беларускі абед.

* * *

Беларусы Мэльбурна і ваколіцы адсьвяткавалі 25-ты Сакавік у нядзелю 31-га сакавіка. Урачыстую Акадэмію адчыніў старшыня Нацыянальнага Камітэту ў Вікторы, сп. Я. Яшчанка, сп. П. Гуз прачытаў рэфэрат, а сп. Ул. Сідлярэвіч прачытаў надасланыя прывітаньні. У мастацкай частцы выступаў хор пад акампаньямант сп. Л. Говара. Хор выканаў шэраг беларускіх песьняў.

## З ВЫДАВЕЦКАЕ НІВЫ

Літаратурная сустань "Баявая ускалось" выдала зборнік вершаў паэта Алеся Змагара — "Да згоды". (Можна набыць у Адміністрацыі "Беларускае Думкі"; цана — $1.50)

Ул. Рыжы-Рыскі выдаў на ратататры першы зборнік сваіх вершаў — "Маці маёй роднай".

Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы і Саюз Беларуска-Амэрыканскае Моладзі выдалі супольнымі сіламі 16 і 17 нумары часапісу "Беларуская Моладзь". Вітаем разумны пачын, годны насьлядаваньня.

Айцец Ян Пятроўскі выдаў чарговы нумар, 1-2(68-69), першага беларуска-эвангельскага часапісу — "Сьветач Хрыстовае Навукі".

Царкоўная Рада Беларускае Праваслаўнае Царквы ў Саўт Рывэры, Н. Дж. выдала ў гэтым годзе чарговы, 3-4(13) нумар царкоўнаграмадзкага часапісу "Царкоўны Сьветач".

Пісьменьнік Юры Жывіца выдаў на ратататры чарговы свой твор — "Песьня салаўя".

Выйшаў з друку (ратататарнага) часапіс "Вехі", орган Беларускае Паступовае Думкі.

Саюз Беларуска - Амэрыканскае Моладзі (Саўт Рывэр) здаў у друк зборнік вершаў паэта Уладзімера Клішэвіча — "Далячынь".

У 1961 г. на ангельскай мове выйшла праца ўкраінскага вучонага, Горара Стэпана пад назовам 'Poland and her National Minorities' (Vantage Press) Кніга памерам 259 старонак, выдадзена ў Нью Ёрку. Праца абыймае пэрыяд ад 1919 да 1939 г. Яна знаёміць англамоўны сьвет, на падставе дакумантаў, аб лёсе ўкраінскага, беларускага і інш. народаў пад панскай Польшчай. — Беларусам, хто валодае ангельскай мовай, радзім пазнаёміцца з гэтай каштоўнай працай нашага суседа.

Рэдакцыйная Калегія: Л. Галяк, А. Даніловіч, М. Кавыль (галоўны рэдактар), І. Касяк, пратапр. а. М. Лапіцкі, Д-р М. Шчорс.

Адрас Рэдакцыі: M. Kavyl, 10 Armstrong Ave., South River, N. J.

Выдае: Беларускае Выдавецкае Таварыства ў ЗША.

PRINTED BY THE WHITERUTHENIAN PRESS, CENTRAL SQUARE, N. Y.